*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 6 (742)** **8 ЛЮТАГА 2006 г.**

## У гонар Тадэвуша Касцюшкі

Надпіс на дошцы:
*"1746.04.02 - 1817.15.10*
***Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, вялікі сын беларускай зямлі, які ў далейшым стаў нацыянальным героем Польшчы, ЗША, ганаровым грамадзянінам Францыі. Удзячныя нашчадкі."***



4 лютага на Берасцейшчыне адзначылі 260-я ўгодкі з дня нараджэння славутага земляка – Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі, нацыянальнага героя Злучаных Штатаў Амерыкі і Польшчы, ганаровага грамадзяніна Францыі.

Ушанаваць памяць пра вялікага змагара за свабоду на ягонай радзіме сабраліся дыпламаты з розных краінаў, акрэдытаваныя ў Менску, прадстаўнікі грамадскасці.

Наведванню памятных мясцінаў, звязаных з імем Тадэвуша Касцюшкі, прысвяціў гэты дзень амбасадар ЗША ў Беларусі Джордж Крол. Раніцай ён пабываў у вёсцы Малыя Сяхновічы, дзе знаходзіцца пакуль адзіны на ўсю Беларусь помнік Касцюшку. У вясковай школе амерыканскі дыпламат агледзеў экспазіцыю невялічкага музея. У Жабінкаўскім раёне спадар Крол, а таксама дэлегацыя нацыянальнай вайсковай акадэміі з амерыканскага горада Ўэст-Пойнт, ушанавалі памяць палеглых жаўнераў у паўстанні 1794 года, якім кіраваў Тадэвуш Касцюшка.

Асноўныя ўрачыстасці адбыліся ў былым фальварку Мерачоўшчына ў Івацэвіцкім раёне, дзе цягам апошніх гадоў (у тым ліку за кошт сродкаў амерыканскай амбасады ў Менску) аднавілі сядзібу Касцюшкаў. Амерыканская дэлегацыя прывезла ў Мерачоўшчыну фрагменты фартыфікацыйных забудоў, што былі ўзведзеныя ў ЗША пад кіраўніцтвам Касцюшкі, падаравала кампутарнае абсталяванне.

Да гэтых урачыстасцяў лідскі скульптар Рычард Груша вырабіў новую мемарыяльную дошку ў гонар Касцюшкі і ўстанавіў яе на камені-валуне ў Мерачоўшчыне.

***Наш кар.***

***Здымак** мемарыяльнай дошкі зроблены ў майстэрні Рычарда Грушы ў Лідзе.*

## Беларускі Герадот

### 14 лютага 2006 года - 100-ыя ўгодкі з дня нараджэння Міколы Ўлашчыка



Нават каб славуты беларусі гісторык Мікалай Улашчык пакінуў пасля сябе толькі два тамы (32 і 35) беларуска-літоўскіх летапісаў, ён назаўсёды б увайшоў у нашую гісторыю. Але ён зрабіў значна болей, і яго можна параўнаць яшчэ з адным тытанам беларускай гістарычнай навукі – прафесарам Доўнар-Запольскім.

Менавіта Улашчык звязаў разам беларускую гістарычную традыцыю канца XIX – пачатку XX ст з будучым новым беларускім адраджэннем канца XX ст. Прайшоўшы праз турмы і сталінскія ссылкі Улашчык захаваў беларускае бачанне на еўрапейскую гісторыю і спрычыніўся да феноменаў Міколы Ермаловіча і Міхася Ткачова.

Я таксама пачаў свой шлях у беларускую гісторыю з яго артыкулаў і манаграфій.

Памятаю, з якой цікавасцю прачытаў некалькі разоў і заканспектаваў яго працу "Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода", якая пабачыла свет у Маскве ў 1973 годзе. Тады я вучыўся на III курсе гістарычнага факультэта БДУ і мусіў рэгулярна хадзіць на лекцыі Лаўрэна Абэцэдарскага.

Зараз праглядаючы свае надаткі, прыводжу толькі адну цытату са старонкі 10: *"В течении 400 лет этот город (Вільня – А.Т.) был столицей не только для литовцев, но и для белорусов. Эти традиции настолько сильны, что когда в 1905 г. было разрешено печатать книги и газеты на белорусском языке, то их главным образом издавали в Вильно. Если вообще исключить из белорусских источников все, что касается Вильно, то прийдётся обойти молчанием деятельность Франтишка Скарины, Мамоничей, православного братства, самого многолюдного и богатого в Литовском государстве (членами братства были почти исключительно белорусы)».*

І гэта было надрукавана менавіта ў 1973 годзе, калі на Беларусі наладзілі чарговыя паляванне на "нацыяналістаў", калі забаранялі навуковыя канфэрэнцыі і зборнікі, а згадваць слова "Вільня" было забаронена (толькі Вільнюс!).

Потым удзяны лёс звёў мяне непасрэдна з Міколам Улашчыкам на кватэры яго сястры, што жыла на вуліцы Кахоўскай, 28. Сам я тады жыў побач, у доме № 40, і тая сустрэча 28 лістапада 1982 года назаўсёды засталася ў маёй памяці.

Улашчык быў чалавекам энцыклапедычных ведаў і, дарэчы, мог гаварыць, вельмі і нязмушана на старабеларускай мове XYI ст. Ён вельмі цікавіўся беларускай археалогіяй і таму шмат дапамагаў працаваць у маскоўскіх архівах Міхасю Ткачову. Уразіла мяне і тое, што ў сваім аўтографе на згаданай вышэй мною кнізе, выдадзенай у 1973 годзе, ён напісаў слова Менск, што тады было вялікай мужнасцю.

Дзякуючы такім людзям, як спадар Улашчык, мы і дайшлі да нашай незалежнасці, якой ён так і не дачакаўся.

***Алег Трусаў.***

*(Успаміны пра выбітнага беларускага гісторыка напісаныя гісторыкам Анатолем Грыцкевічам і пісьменнікам Уладзімірам Содалем чытайце на ст. 2-3.)*



Bundeskanzleramt

**Спадару Алегу Трусаву,**
**старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны,**
**вул. Румянцава, 13,**
**220034, Мінск, БЕЛАРУСЬ**

*Дэпартамент Бундэсканцлера*
**Міхаэль Зіберт**
Дарадчык місіі, Кіраўнік аддзелу 212
(Аддзелу Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёва-Ўсходняй Еўропы, Закаўказзя і Цэнтральнай Азіі)
*Берлін, 23 студзеня 2006 г.*

**Паважаны спадар Трусаў.**

Бундэсканцлер, Др. Ангела Меркель даручыла мне падзякаваць Вам за Ваш ліст ад 01.12.2005, які датычыўся выкарыстання беларускай мовы ў перадачах Нямецкай хвалі, а таксама адказаць на яго. Вы скардзіцеся, што гэта праграма выходзіць пераважна на рускай мове.

Абсалютнае двухмоўе праграмы без сумневу было б найлепшым рашэннем. Аднак у дадзены момант яго немагчыма рэалізаваць з фінансавых прычын. З гэтай нагоды Нямецкая хваля выпушчала выпускаць "Беларускую хроніку" на дзве трацыны па-руску, на адну - па-беларуску. У перадачы, якая пачынаецца ў 19.30 па Цэнтральнаеўрапейскім часе, на беларускай мове будзе рэгулярна выходзіць падборка навін, а таксама рэпартаж або аповед. Нямецкая хваля ўжо даўно змяшчае матэрыялы, як на рускай, так і на беларускай мове на сваёй інтэрнэт-старонцы www.dw-world.de/belarus.

Нямецкая хваля крытыкавалася таксама з мэтай паяўлічэння долі беларускамоўнага вяшчання ў праграмах. Пры гэтым не вызначана адназначна, якой з дзвюх моў аддае перавагу большая колькасць слухачоў.

Між тым, паводле нашай інфармацыі, беларускае тэлебачанне таксама не перадае ні палітычныя навіны, ні палітычныя каментары на беларускай мове.

## "Наша слова" вярнулася ў шапікі "Мінскгарсаюздруку"

Пасля складаных перамоваў паміж рэдакцыяй газеты "Наша слова" і УП "Мінскгарсаюздрук" заключана дамова на продаж нашай газеты ў Менску. Замест ранейшых 250 асобнікаў зараз у Менск будзе пастаўляцца 300 газет.

Аднак дамова заключана толькі на тры месяцы. Калі ў гэты перыяд газету ізноў будуць дрэнна купляць, і каэфіцыент спісання складзе больш 30%, у нас ізноў узнікнуць праблемы, якія ізноў могуць прывесці да выдалення газеты з шапікаў.

Рэдакцыя імкнецца да таго, каб газета была цікавай, справа сяброў ТБМ паўсюдна рабіць ёй рэкламу, рэкамендаваць газету сябрам і знаёмым. Разам мы выстаім.

***С. Суднік.***



№ 6 (742) 8 ЛЮТАГА 2006 г. Наша Слова

*Анатоль Грыцкевіч*

# Мікалай Мікалаевіч Улашчык – беларускі вучоны і патрыёт

## (Да 100-годдзя з дня нараджэння)

14 лютага 2006 года спаўняецца 100-ая гадавіна з дня нараджэння Мікалая Мікалаевіч Улашчыка, Вучонага з вялікай літары, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны, абаяльнага і сумленнага чалавека. М. М. Улашчык назаўжды ўвайшоў у гісторыю беларускай навукі як узор адданага навуцы чалавека з усімі якасцямі, неабходнымі для сапраўднага даследчыка мінуўшчыны. Куды б яго ні закідаў лёс, Мікола Улашчык заставаўся патрыётам Беларусі, хаця большую частку свайго жыцця вымушаны быў жыць у Расіі. Гэта быў прынцыповы вучоны, які не цярпеў і не пагаджаўся з лёгкімі, непрафесійнымі адносінамі да гісторыі, прытрымліваўся заўсёды навуковай метадалогіі, рэзка крытыкаваў кан'юктуршчыкаў у навуцы.

Мікалай Мікалаевіч Улашчык быў не толькі гісторыкам, але і археографам, археолагам, краязнаўцам і літаратарам. Яго навуковы даробак праявіўся ў некалькіх галінах.

Мне пашчасціла сябраваць з Мікалаем Мікалаевічам некалькі дзесяткаў гадоў, і я добра ведаў гэтага рупліўца беларушчыны, падчас канферэнцый, дзе мы сустракаліся, а таксам маіх паездак у Маскву, дзе я наведваў М. М. Улашчыка ў яго кватэры (непадалёк ад Беларускага вакзала), ці калі М. М. Улашчык прыязджаў у Менск. Мы абменьваліся думкамі на навуковыя тэмы, і нашы пазіцыі вельмі часта супадалі. Сваёй працай, сваім асабістым прыкладам вучонага ён натхняў лічаных (у той час) адзінкі беларускіх гісторыкаў (В.П. Грыцкевіча. М.А. Ткачова, Г.А. Каханоўскага, мяне), якія ўжо ў 60-70-я гады XX ст. стаялі на пазіцыях нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі і які змагаліся з руціннай савецкай беларускай гістарыяграфіяй у вельмі цяжкіх умовах.

Мікалай Мікалаевіч Улашчык нарадзіўся ў вёсцы Віцкаўшчына Менскага павету (цяпер Дзяржынскі раён). У 1929 г. скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт і працаваў у беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і сакратаром Кніжнай палаты БССР. Ён удзельнічаў у нацыянальна-культурным руху, асабліва ў краязнаўчым. У чэрвені 1930 г. малады спецыяліст быў арыштаваны па штучна створанай справе "Саюза вызвалення Беларусі" і ў 1931 г. высланы на 5 гадоў у гор. Налінск Вяцкай губерні. У чэрвені 1933 г. М.М. Улашчык быў асуджаны паўторна і этапаваны ў Марыінскі папраўча-працоўны лагер у Навасібірскай вобласці, а пасля ў пасёлак Суслава Кемераўскай вобласці. Быў вызвалены вясной 1935 г. без дазволу вяртання ў Беларусь. Працаваў выкладчыкам гісторыі і геаграфіі ў школах і тэхнікумах розных абласцей Расіі. З 1939 г. М.М. Улашчык жыў у Ленінградзе, настаўнічаў. 23 чэрвеня 1941 г. зноў быў арыштаваны і высланы ў гор. Златавуст Чалябінскай вобласці. Пры садзейнічанні ўплывовага вучонага-фізіёлага, віца-прэзідэнта Акадэміі навук СССР Л.А. Арбелі 28 лістапада 1942 г. Мікалай Мікалаевіч быў вызвалены з турмы ў Златавусце. Ён займаўся вывучэннем аграрнай гісторыі Беларусі і Літвы XIX ст., а з 1948 г. выкладаў гісторыю ў Маскоўскім універсітэце. У 1949 г. М. М. Улашчык быў звольнены з працы, рэпрэсаваны і ў 1951 г. этапаваны ў лагер у пасёлку Суслава. Урэшце лагерная эпапея М.М. Улашчыка скончылася. 25 сакавіка 1955 г. ён быў вызвалены і вярнуўся ў Маскву да сям'і. Жонка яго – Наталля Маркаўна Шамарына, вядомы фізіёлаг, доктар біялагічных навук, вучаніца Л.А. Арбелі. У 1955 г. М.М. Улашчык абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1964 г. – доктарскую. Прага да навукі перамагла ўсе жыццёвыя трагічныя перыяды. Ад 1955 г. М.М. Улашчык працаваў у Маскве ў Інстытуце гісторыі АН СССР да канца свайго жыцця.

Спробы ў 70-х гадах перыехаць у Менск на працу ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР, дзе б талент даследчыка раскрыўся б яшчэ больш, скончыліся няўдачай. Тагачасны дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР П.Ц. Петракоў устаў сцяной толькі каб не ўзяць на працу таленавітага вучонага з-за яго нацыянальнай пазіцыі і біяграфіі былога палітвязня. Мікалай Мікалаевіч працягваў працаваць у Маскве. Памёр М. М. Улашчык 14 лістапада 1986 г., пражыўшы 80 гадоў.

Мікалай Мікалаевіч Улашчык стала ўвайшоў у беларускую гістарыяграфію як выдатны спецыяліст па пытаннях археаграфіі і крыніцазнаўства Беларусі. Па праблемах беларуска-літоўскага летапісання, пытаннях сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі і Літвы XIX ст. Галоўнай тэмай апошніх дзесяцігоддзяў працы вучонага была падрыхтоўка і выданне беларуска-літоўскіх летапісаў. М.М. Улашчык выдаў "Хроніку Быхаўца" (1966), 32- і 35-ы тамы беларуска-літоўскіх летапісаў (1975-1980) у серыі Поўнага збору рускіх летапісаў. Іх можна лічыць капітальнымі работамі для далейшай працы даследчыкаў.

Дзве манаграфіі М.М. Улашчыка "Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду" (М., 1973) і "Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання" (М., 1985) – з'яўляюцца не толькі крыніцазнаўчымі даследаннямі, а і гістарыяграфічнымі працамі.

Погляды выдатнага беларускага навукоўца па праблемах гістарыяграфіі Беларуска-Літоўскай дзяржавы XIУ – першай паловы XУI ст. адлюстраваныя і ў яго рэцэнзіях на кнігі і працы беларускіх гісторыкаў, у яго каментарыях да выдадзеных ім летапісаў.

Мікалай Мікалаевіч Улашчык, займаючыся праблемамі гісторыі Беларусі і Літвы, дакладна вызначыў для сябе прадмет даследавання. Зыходзячы з гістарычных рэаліяў, вучоны лічыў, што вельмі рэдкае ўжыванне тэрмінаў "Беларусь" і "беларускі народ" у гістарычнай літаратуры да пачатку XX ст. уключна залежала ў большай ступені ад таго, што тады гэтыя дэфініцыі былі недастаткова вядомыя. У свой час, прынамсі ў XУI ст., як і ў больш позні перыяд, Беларуссю называлі толькі беларускае Падзвінне і Падняпроўе. Усю іншую Беларусь (заходнюю і цэнтральную яе часткі) называлі Літвой, а жыхароў ліцьвінамі, часам руссю, русінамі.

Разам з тым вучоны адзначаў, што мовай беларуска-літоўскіх летапісаў, як і афіцыйных дакументаў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага была беларуская мова.

У сваёй працы "Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання" (М, 1985) М.М. Улашчык адзначыў дзяржаўнакансалідавальную ролю старажытнага Навагардка і мажлівае напісанне ў ім летапісу. Ён таксама заўважыў, што ў "Хроніцы" М. Стрыйкоўскага было выкарыстана 15 страчаных беларускіх летапісаў, якія не дайшлі да нашага часу.

У сваіх выступах на навуковых канферэнцыях і ў сваіх водгуках на асобныя працы сучасных яму гісторыкаў М. М. Улашчык развіваў свае погляды, як на асобныя пытанні, так і на агульныя праблемы. Пры гэтым вучонаму былі уласцівыя абгрунтаванасць і доказнасць высноў, шырыня адукаванасці, асабістая сціпласць і патрабавальнасць, як да іншых, так і да сябе, дазвалялі даследчыку глыбока вывучаць мінуўшчыну.

М.М. Улашчык адзначаў спробы літоўскай нацыянальнай гістарыяграфіі прынізіць значэнне беларускага (а потым і ўкраінскага) элементу ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, прадставіць яго няздольным на якую –небудзь палітычную самастойнасць ні ў межах гэтай дзяржавы, ці, увогуле, прадставіць яго толькі гаспадарчым прыдаткам уласна і выключна літоўскай дзяржаўнасці.

Асабліва яскрава праявілася пазіцыя Мікалая Мікалаевіча Улашчыка ў ацэнцы ім манаграфіі "Беларусь у XIУ – першай палове XУI ст.", падрыхтаванай калектывам аўтараў у Інстытуце гісторыі АН БССР у пачатку 70-х гадоў XX ст. калектывам аўтараў па загаду ЦК КПБ. Заданнем гісторыкаў было даказаць літоўскі дзяржаўны характар Вялікага Княства Літоўскага (!), насуперак поглядам "беларускіх нацыяналістаў" (асабліва ў замежжы).

Аўтарамі загадам дырэктара інстытута П.Ц. Петрыкава, які курыраваў гэтую працу, былі прызначаны доктар гістарычных навук А.М. Карпачоў (кіраўнік групы аўтараў), кандыдаты гістарычных навук Г.Я. Галенчанка. А.П. Грыцкевіч, С.А. Шчарбакоў, а таксама малодшы навуковы супрацоўнік М.Ф. Спірыдонаў рэдакцыйную калегію складалі дактары навук К.І. Шабуня, А. М. Карпач і З. Ю. Копыскі.

Паколькі "вострыя пытанні дзяржаўнасці і знешняй палітыкі" іншыя аўтары адмовіліся браць (каб не несці адказнасці), схаваўшыся за эканоміку, унутраную палітыку і культуру, то гэтыя "нябяспечныя" пытанні даручылі распрацоўваць мне. Я адразу заявіў, што не буду пісаць працу па загаду, а толькі зыходзячы з гістарычных дакументаў і распрацаванай гістарыяграфіі. Паколькі аўтары амаль цалкам стаялі на кансерватыўных пазіцыях, то напісанне працы, якое пачалося ў 1971 г. і працягвалася да 1980 г. праходзіла ў пастаянных спрэчках і ціску на адзінага аўтара, які выступаў з пункту гледжання нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Урэшце ў 1975 г. я вымушаны быў змяніць месца працы і пайсці на выкладчыцкую работу.

Рукапіс Манаграфіі выйшаў неадназначным. Рэцэнзія на яго, якую па замове інстытута напісала доктар гістарычных навук Г.Л. Харашкевіч з Масквы, з Інстытуту гісторыі АН СССР, была спрыяльная для большасці аўтараў, але і мела крытычныя заўвагі для іх.

Другая рэцэнзія была запрошана ў М.М. Улашчыка. Ён даў бліскучую рэцэнзію. У сваёй рэцэнзіі, напісанай у 1981 г. М.М. Улашчык крытыкаваў пазіцыі тых савецкіх гісторыкаў у БССР, якія не прызнавалі існавання беларускай дзяржаўнасці да 1 студзеня 1919 года і лічылі, таксама, як і літоўскія гісторыкі, Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, толькі літоўскай дзяржавай. Ён пісаў пра рукапіс гэтай манаграфіі: "У рабоце ўзмоцнена падкрэсліваецца надта пасіўнае... пастаянна прыгнечанае становішча... беларускага насельніцтва ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, Раздзьмухваючы факты заваёвы заходне-рускіх зямель літоўскімі князямі і замоўчваюцца вельмі важныя ў навуковых і палітычных дачыненнях факты раўнапраўнага супрацоўніцтва беларускіх і літоўскіх палітычных сіл таго часу, прызнаюцца правамернасць і "законнасць" самой назвы гэтага княства "Літоўскай дзяржавай" (хаця аўтарам, безумоўна, добра вядомы той факт, што ўсходнія славяне складалі 9/10 усяго насельніцтва гэтага княства".

М.М. Улашчык у сувязі з гэтым падкрэсліваў, што "ўсходнеславянскае насельніцтва праз сваіх феадалаў, баяраў і князёў адыгравала вельмі істотную палітычную ролю ў палітычным жыцці не толькі Княства, але і ўсёй Усходняй Еўропы".

Гэтыя вельмі слушныя крытычныя заўвагі М.М. Улашчыка далі яму магчымасць крытыкаваць галоўны тэзіс аўтараў згаданай працы, якія прызнавалі толькі назвы "Літоўская дзяржава", "Вялікае Княства Літоўскае", але не прызнавалі нават такой назвы, як Вялікае Княства Літоўскае і Рускае", якую ўжывала нават частка дарэвалюцыйных расейскіх гісторыкаў; г. зн., што ўсходнеславянскі элемент увогуле выключаўся аўтарамі і навуковымі рэдактарамі гэтай манаграфіі, як дзяржаватворны. Дарэчы, цяпер такую пазіцыю займаюць самыя рэакцыйныя і кансерватыўныя гісторыкі ў Беларусі, якія намагаюцца вярнуць з нябыту фальсіфікаваную версію гісторыіБеларусі савецкага часу.

У выніку кніга савецкіх гісторыкаў пра Беларусь у складзе Вялікага Княства Літоўскага так і не выйшла з друку. Што тычыцца мяне (як аднаго з аўтараў), то я свае матэрыялы выкарыстаў у шэрагу прац і энцыклапедычных артыкулаў, у тым ліку ў энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае", першы том якой ужо выйшаў.

Апошняя мая сустрэча з Мікалаем Мікалаевічам Улашчыкам адбылася у красавіку 1985 г. у Вільні. Абставіны склаліся так, што мне у Менску абараніць доктарскую дысертацыю не выпадала. Прыйшлося звярнуцца ў Віленскі універсітэт, дзе маю дысертацыю прынялі да абароны яшчэ да "перабудовы". У красавіку 1985 г. у Віленскім універсітэце і адбылася абарона. Першым з трох апанентаў, дактароў навук, выступіў Мікалай Мікалаевіч Улашчык. У выніку абмеркавання ўсе 13 чальцоў вучонай рады па абароне дысертацый прагаласавалі за прысуджэнне мне навуковай ступені доктара гістарычных навук. Таму мяне называюць жартоўна "летувас доктарас". ВАК у Маскве зацвердзіла гэтае рашэнне праз год. У красавіку 1986 г. М.М. Улашчык паспеў яшчэ прачытаць маю рэцэнзію на яго кнігу "Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання" (М., 1985), якая была надрукавана ў № 4 часопіса "Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук" (1986). Я знаходзіўся ў адпачынку ў лістападзе 1986 г. у Пяцігорску, калі мая жонка прыслала з Менску тэлеграму аб смерці Мікалая Мікалаевіча. Асабісты архіў М.М. Улашчыка знаходзіцца на захаванні ў навуковай бібліятэцы Нацыянальнай Акадэміі Навук. Нашу з ім перапіску я таксама перадаў туды.

Мікалай Мікалаевіч Улашчык для сучасных беларускіх нацыянальных гісторыкаў з'яўляецца прыкладам аадданасці сваёй справе, непахіснасці ў адстойванні сваіх навуковых прынцыпаў, сумленнасці, у дапамозе маладым даследчыкам. Час наказаў, што з гадамі працы Мікалая Мікалаевіча Ўлашчыка набываюць усе больш важнае навуковае і грамадскае значэнне і вызначаюць пэўны кірунак у беларускай гістарыяграфіі.

# Сустрэча на Сморгаўскім

21 сакавіка 1985 года, у дзень народзінаў Францішка Багушэвіча, журналісцкія клопаты прывялі мяне да вядомага беларускага гісторыка Мікалая Улашчыка, які гасцяваў у Менску ў свае сястры Вольгі на Кахоўскай, 28. Вуліца Кахоўская ідзе паўз кінатэатр "Кіеў". Будынак жа 28 усімі сваімі пад'ездамі заняў месца ў тупіку старой менскай вуліцы Сморгаўскай, вуліцы, да якой я маю даўнюю цікавасць. Менавіта пра гэтую вуліцу і пачалася ў нас гаворка з Мікалаем Мікалаевічам. Я пацікавіўся, ці ведае ён, чым яна слынная. Калі я сказаў яму, што ў гады свае маладосці па гэтай вуліцы часта ездзіў Янка Купала, калі жыў у Бараўцах, дзе яго маці арандавала фальварак, Улашчык вельмі здзівіўся: "А я і не ведаў..." І тут жа дадаў, неяк таямніча, нібы адчуў, што мне гэта цікава: "А ці ведаеце вы, што я адзін з тых, хто першы рабіў вандроўку па Купалавых мясцінах?" Я зусім не чакаў, што наша размова завяжацца пра Купалу. Ну але калі ўзбіліся так нечакана на гэтую размову, то чаму ж не паслухаць яшчэ аднаго сведку Купалавых часоў, ды яшчэ на Сморгаўскім тракце, тым самым тракце, па якім ездзіў у Купалавы Бараўцы.

*— Даўно, вельмі даўно тое было, ды так даўно, што шмат чаго і пазабывалася, - сказаў Улашчык з адчуваннем шмат пражытых гадоў. - Каб зразумець нашу вандроўку, я мушу вярнуцца ў 1926 год. Я вучыўся тады ва універсітэце. У нашым універсітэце стварылася краязнаўчае таварыства. Старшынём яго быў рэктар. Краязнаўства ў той час на Беларусі было ў вялікай пашане. Лічылася, што ў нас яно як найлепш наладжана. І вось у 1926 годзе мы зрабілі сваё навуковае падарожжа па Мазыршчыне, Тураўшчыне, Тонежы. Незабыўнае было тое падарожжа. З яго мы прывезлі пах нашай гісторыі, наслухаліся шмат розных паданняў, легендаў. У 1927 годзе мы былі запрошаны на вячэру да Ванды Лявіцкай. Яна жыла з сям'ёй на Правіянцкай вуліцы. Такія вечары тады часта практыкаваліся. Быў на гэтым вечары і Янка Купала з Уладзіславай Францаўнай. Прыйшлі на вячэру і маладзейшыя: Юрашкевіч Іван, студэнты Рыгор і Іна Ластоўскія, Юзік Бараноўскі. І мы ўвесь ве-чар распавядалі пра сваё падарожжа. Найбольш за ўсіх распавядаў пра вандроўку Юзік Бараноўскі. Ён вучыўся на хірурга, умеў цікава апавядаць. Ён так загаварыў усіх сваімі расповядамі, што Янка Купала забыўся, што яму трэба а 10-й гадзіне дадому. Янка Купала меў звычку а 10-й быць ужо дома. А 10-й канчаў усе клопаты. А тут забыўся. А на адыходзе падзякаваў і параіў: "Запісвайце ўсё, бо забудзецца". Вось гэтая сустрэча і навяла на думку прайсціся па Купалавых сцежках. Пра свой намер сказалі Уладзіславе Францаўне. Яна ўхваліла нашу задуму: "Ідзіце, хлопчыкі, ідзіце!" І вось мы ўтраіх: я, Юзік Бараноўскі - я казаў ужо: ён вучыўся на хірурга - Каваленя Алесь, археолаг з-пад Слоніма, выправіліся па Купалавых сцежках. Было гэта позняй восенню. Пайшлі мы праз Весялоўку, перайшлі Свіслач. Далей дарогі не памятаю. Дайшлі да Бяларучаў. У Бяларучах начавалі ў нейкага дзядзькі. З Бяларучаў накіраваліся на Лысую Гару. Надта мне там спадабалася. Вакол узгоркі, узгоркі... А на іх - стромыя лясы. Усё такое дзівоснае, казачнае. Пацікавіліся, ці часта сюды прыходзяць людзі. "А часта. Прыйдзе каторы, на гару гляне, пастаіць і пойдзе". Былі ў Гайне. Гэта вішнёвы кут. Некалі ж гайнаўскія вішні вазілі ў Менск цэлымі вазамі. На Траецкай гары рынак быў. То там і прадавалі. Прадавалі па тры капейкі за гарац. Другім заходам наведалі мы і Асташыцкі Гарадок. Цікавіліся курганамі, гарадзішчамі. З намі ж быў археолаг. У Астрашыцкім таксама начавалі. Мы хацелі напачатку абхадзіць Купалавы мясціны, абгледзець іх, а пасля і сфатаграфаваць. У мяне быў прыяцель Каліста Пастуховіч. Ён меў фотаапарат. Але сфатаграфаваць нагледжаныя намі мясціны нам не ўдалося. Нават Купалу не паспелі расказаць. Нас арыштавалі. Давялося вандраваць па іншых землях і краях. ...*

Вось такую сумна драматычную гісторыю давялося мне пачуць у 1985 годзе на Сморгаўскай вуліцы ў кватэры Улашчыкавай сястры, у якой гасцяваў слынны беларускі гісторык.

Гісторыя гэтая, безумоўна ж, цікавая і сама па сабе. Але тое, што я пачуў яе ў доме пры колішнім Бараўскім тракце, па якім неаднойчы ездзіў Янка Купала, пачуў ад чалавека, які адзін з першых на Беларусі прайшоўся па Купалавых сцежках, робіць гэтую гісторыйку яшчэ больш выразнай. Гэта ж трэба было лёсу пасяліць тут Улашчыкаву сястру, звесці мяне, развярушанага Бараўцамі, Бараўскім трактам, з Мікалаем Мікалаевічам, каб гэтая гісторыйка гэтак натуральна выплыла з яго душы. Перакананы, калі б наша сустрэча была ў іншым месцы, не на Сморгаўскай вуліцы, наўрад ці б мы парушылі з Мікалаем Улашчыкам гаворку пра яго вандроўку па Купалавых сцежках. А вось парушылі, успомнілі, згадалі.

Мікалай Мікалаевіч, нягледзячы на ўсю тую драму, якую ён перажыў з нагоды арышту і высылкі, пра вандроўку на Купалавых мясцінах згадваў з прыемнасцю, як адну з самых светлых старонак свайго жыцця. Купалу бачыў неаднойчы і з рознай нагоды. Быў, прыкладам, сведкам, як пясняр падпісваў у Ленінскай бібліятэцы сваю кніжку "Шляхам гадоў" Іларыёну Свянціцкаму, бачыў яго на юбілейнай урачыстасці.

Дзядзька Янка, паводле Улашчыкавых слоў, у гады яго студэнцтва быў паважаны сярод моладзі паэт.

***Уладзімір Содаль.***



**Мікола Ўлашчык і Уладзімір Содаль**

# Згадкі пра летапісца

Часта думаю: "Што гэта за ліхачка такое, чаму так зладзілася на Беларусі, што ўсе тыя, хто ўсёй сваёй душою ўсяго сябе аддаваў і аддае Бацькаўшчыне, хто ёй зычыць шчасця і дабра і дзеля гэтага дабра кладзе ўсё на алтар, тыя найчасцей за ўсё змушаныя жыць па-за межамі Беларусі. Колькі такіх людзей! Адзін з іх быў і Мікалай Улашчык, знаны не толькі на Беларусі, але далёка за яе межамі вучоны - і найперш як дасведчаны знаўца гісторыі роднага краю, даследчык беларускалітоўскіх летапісаў.

... З прафесарам Улашчыкам мяне звёў Янка Канышка - асоба цікавая, але і да гэтай пары нявысветленая, загадкавая. Ён прыйшоў да мяне і прапанаваў паказаць Мікалая Улашчыка па тэлевізіі. Ён прывёў яго і на запіс, апекаваўся ім на працягу ўсяго запісу. Здаецца, нават і пытанні з ім абмяркоўвалі разам. Ва ўсякім разе, удакладнялі... Здаецца, Янка Канышка і фатаграфаваў яго.

Напачатку перадача задумвалася для паказу ў "Родным Слове". Але сярод кіраўніцтва знайшоўся хтосьці абачлівы - ці не сам Бураўкін - ён тады кіраваў камітэтам. Да "Роднага Слова" мелі пільную ўвагу ў ЦК. Улашчыкава постаць, як я пасля зразумеў, для беларускага чыноўніцтва была не вельмі жаданая. Прыгадваецца, што Улашчык хацеў вярнуцца на Беларусь. Але яму тут учынілі абструкцыю і шальмаванне. Прынамсі, у нашым любым універсітэце. Пра гэта расказаў сам Мікалай Мікалаевіч. Таму, каб не вельмі дражніць гусей, прапанавана было пусціць перадачу пад іншай назваю. Здаецца, яна прайшла пад назвам "З глыбіняў стагоддзяў..." — як перадача з гісторыі Беларусі, хоць, наколькі памятаю, гаворка была найперш скіравана ў моўнае рэчышча. Сцэнар не пісаўся. Былі толькі накіды пытанняў і адказаў. Папярэдне сустракаўся з Улашчыкам на кватэры ў ягонай сястры. Пасля з нейкай нагоды мы ездзілі з Улашчыкам у Заслаўе. Ці то ён нам штосьць паказваў, ці то яму штосьць паказвалі. Памятаю, быў Мікола Купава, я, Віктар Маркавец, Аляксей Марачкін, Яўген Кулік. Ездзілі на аўто, легкавіку. Па дарозе, вядома, шмат размаўлялі. Мікалай Мікалаевіч адказваў на нашы пытанні і сам пры нагодзе штокольвек распавядаў. Прынамсі, калі наша аўто ехала праз Пляц Волі, Улашчык прыгадаў, як у колішнім доме губернатара размяшчалася галоўная ўлада на Беларусі - Выканаўчы Камітэт, дзе хто сядзеў: Алесь Чарвякоў на першым паверсе, як зойдзеш, злева. Справа сядзеў Адамовіч. Тут жа на першым паверсе былі асабістыя сакратары Чарнушэвіч, Чумакоў. Усё было проста. Ніякага табе міліцыянера. Ідзі, заходзь, каму трэба. Згадаў Мікалай Мікалаевіч таксама, што ў 1919 годзе ў Менску за Пілсудскім былі адчыненыя дзве беларускія школы. У адну з іх, на цяперашняй Камсамольскай, патрапіў і ён. Настаўнікам беларускай мовы быў Язэп Шнаркевіч. Пасля Улашчык з ім сустракаўся ў Вільні. Дык гэты настаўнік вывучыў за шэсць месяцаў мове так, што цяпер і за шэсць гадоў так не навучаць. Згадваў школай мастак Даркоўскі. Жонка яго польскую мову выкладала. Згадаў Улашчык па дарозе ў Заслаўе, што дзядуля ягоны быў уніят. Невялікі ўніяцкі абразок быў і ў ягонага бацькі...

Не даязджаючы Заслаўя, гэта было недалёка ад бензазапраўкі і заслаўскага могільніка, памятаю, такое суседства двух, такіх розных аб'ектаў чалавечага быцця, выклікала ва ўсіх абурэнне і недаўменне - зазірнулі ў прыдарожны хвойнічак. Там агледзелі колькі даўніх капцоў, палічылі іх. Улашчык штосьць пра іх сказаў. Затым лазілі на якуюсь гару, слухалі пра яе паданні, легенды. Распавядала Таццяна Гаранская, якая далучылася да нашай экіпы ў Заслаўі. Улашчык усюды хадзіў з намі, але прызнаўся, што прыстаў трохі.

Слухаў я Ўлашчыка і на сустрэчах у Доме літаратара. З усяго, што ён там распавядаў, мне запомнілася ягонае трактоўка слова "прэстол" ці, больш дакладна, пошук адпаведніка яму ў беларускай мове. Такім словам, на яго думку, такім адпаведнікам, павінна быць слова "сталец". І я з гэтай прапановы ўсцешыўся. І напраўду - які "прастол"! Сталец! Дзяржаўны сталец! Сталец у беларусаў быў яшчэ за царом Гарохам, пры цару Гароху. Адсюль і стольны горад, стольнае месца і сталіца.

У маім прыватным архіве, як дарагая памятка, захоўваецца план гутаркі слыннага гісторыка на тэлевізіі з аўтографам. На першай старонцы рукою Улашчыка напісана: "Роднаму слову". 23.III.85. і роспіс. На сямі аркушыках даследчык кораценька распавёў, як ён пачаў займацца летапісамі і чаго ён дасягнуў у сваіх даследаваннях. Не ведаю зараз, гэта само сабою так атрымалася ці гэта было абдумана кімсьці з абачлівых, але аб адзін дзень - 27 красавіка 1985 года - у эфір выйшла і "Роднае слова" і Улашчыкава "З глыбінь стагоддзяў..." Анатацыі на абедзве перадачы былі размешчаны побач...

Мяркую, у гэтым быў якісь манеўр. Нейкая з гэтых перадач павінна была прытупіць чыюсьці пільнасць, адцягнуць увагу ці паказаць нашу лагоду, памяркоўнасць. Выпуск "Роднага слова", як сведчыць анатацыя, прысвячаўся тэме, як жыло і змагалася роднае слова ў дні Вялікай Айчыннай вайны, як яно волю здабывала. А "З глыбінь стагоддзяў" трактавалася, як перадача з гісторыі летапісаў, хаця, паўтаруся, у ёй найперш даследаваліся гістарычныя пласты нашай мовы. Такія былі грамадскія варункі вакол асобы Мікалая Улашчыка на Беларусі ў 1985 годзе. Ягоны расказ пра старажытныя беларускія летапісы 27 красавіка 1985 года на Беларускім тэлебачанні - гэта было першае яго з'яўленне на экране. Гэтаму, вядома, паспрыяў і час, і кіраўніцтва камітэта, якое мусіла разбураць спакваля старыя меркі і стэрэатыпы. Саму ж перадачу, на жаль, не захавалі. Неўзабаве тэлевізійную сустрэчу з Улашчыкам наладзіла перадача "Ліра". Гэты запіс, здаецца, ацалеў.

***Уладзімір Содаль.***

23.III.85. Мінск
1. Асноўная спецыяльнасць - летапісы і наогул крыніцы па гісторыі Беларусі.
2. Пачаў займацца летапісамі даўно, у 1926 г. на другім курсе, у універсітэце, [illegible] з тымі зборамі, дзе гаварылася пра Беларусь.
3. Грунтоўна стаў вывучаць наша летапісы толькі праз 30 гадоў, працуючы ў Інстытуце гісторыі СССР Акадэміі навук СССР, трыццаць гадоў назад.
4. Прыблізна 20 гадоў назад дырэкцыя Інстытута даручыла мне выдаць усе беларуска-літоўскія летапісы і з таго часу гэта стала асноўнай сферай маёй дзейнасці.
5. З таго часу даследаваў бібліятэкі і архівы Масквы, Ленінграда, Кіева, Львова, Вільнюса, Варшавы, [illegible], Кракава

***Аўтограф выступу М. Улашчыка***

*(друкуецца ўпершыню)*

Цішэк В., Флягерты Д.

## З Богам у Расеі

Перакл. з польск. П. Ляхновіча. – Б.м., 2005.




Гісторыя жыцця, расказаная ў гэтай аўтабіяграфічнай кнізе, можа падацца нескаму неверагоднай. Вальтэр Цішэк – амерыканец польскага паходжання, эзуіт, які "пачуў Божае пакліканне" і прыехаў у 1930-я гады ў СССР, каб "дапамагаць людзям адчыніць свае сэрцы Богу". Пэўны час Цішэк выконваў сваю душпастырскую функцыю і на беларускай зямлі – у Альбярціне, каля Слоніма. Пасля былі Расія і 15 гадоў турмаў і лагераў, куды святар трапіў як "шпіён Ватыкану". Па вызваленні В. Цішэка чакала жыццё-існаванне ў краіне нявolі прымусу, дзе словы "эзуіт" і "эзуіцкі" ператварыліся ў лаянку, а вера ў Бога – у найвялікшую загану. Толькі праз 23 гады, загартаваўшы ў выпрабаваннях сваю веру, Вальтэр Цішэк змог вярнуцца ў ЗША.

Успаміны святара паказваюць ганебныя ўмовы жыцця ў СССР, выкрываюць дзейнасць дзяржаўных органаў, галоўны мэтай якіх было маральнае і фізічнае знішчэнне нязручных рэжыму людзей.

*Наш кар.*

## У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АЛЬБОМА "РАРЫТЭТЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ"

2 лютага ў Менску адбылася прэзентацыя альбома "Рарытэты Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі", выдадзенага пры падтрымцы кампаніі "Брытыш Амерыкан Табака".

У альбом уключаны фатаграфіі каля 80 унікальных рукапісных, старадрукаваных і рэдкіх выданняў з амаль 70 тысяч тамоў рарытэтаў, у якіх адлюстравана гісторыя краін і народаў, культурная спадчына Беларусі. Сярод іх — рукапіс XVI стагоддзя "Тайная тайных, або Арыстоцелевы вароты" на старабеларускай мове, помнікі славянскага і ўсходнееўрапейскага пісьменства, рукапісы вядомых дзеячаў нацыянальнай культуры, выданні Бібліі беларускага першадрукара Францішка Скарыны (Прага, 1517—1519), Пятра Мсціслаўца, Івана Фёдарава, Васіля Гарабурды, братоў Мамонічаў, кнігі з берасцейскай друкарні Мікалая Радзівіла Чорнага, а таксама выданні з аўтографамі Максіма Багдановіча, Марка Шагала, Мікалая Гогаля, Івана Буніна, Анатоля Франса, Віктора Гюго, Марыны Цвятаевай і Пабла Пікасо. Фатаграфіі суправаджаюцца каментарамі на беларускай і англійскай мовах.

Паводле слоў навуковага кіраўніка праекта, намесніка дырэктара бібліятэкі па навуцы Людмілы Кірухінай, частка накладу альбома, які з'яўляецца падарункавым выданнем, будзе накіравана ў найбуйнейшыя бібліятэкі краіны і замежжа.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# Бог разумее нашую мову

*Паважаныя чытачы!*

*Мы ўжо не раз пісалі пра выкарыстанне беларускай мовы вернікамі розных канфесій. Зараз мы перадрукоўваем артыкул з "Народнай Волі", пра аднаго з вядомых беларускіх праваслаўных святароў Сяргея Гардуна,які, дарэчы, з дазволу ўладыкі Філарэта агучыў у свой час у галоўным праваслаўным храме Беларусі малітву за беларускую мову.*

*Зараз ў праваслаўнай царкве на Беларусі дзейнічае група беларускамоўных святароў, якія нясуць да Бога роднае матчынае слова пад час богаслужбы і казанняў.*

*Дастаткова згадаць разам з айцом Сергіем, менскага святара Пятрапаўлаўскай царквы айца Латушку, святароў зэльвенскай праваслаўнай царквы, гарадзенскай Каложскай, (Барысаглебскай) царквы і іншых. Спадзеёмся, што з вашай дапамогай, шаноўныя чытачы, мы зможам расказаць пра іх на старонках нашай газеты.*

*Старшыня ТБМ – Алег Трусаў.*

***— Айцец Сергій, з чаго ўсё распачыналася?***

— На Русі здаўна (ды і ў нас) богаслужэнне ў храмах вядзецца на царкоўнаславянскай мове, хаця ў 1875 годзе Біблія была перакладзена на рускую мову. Падчас перабудовы, станаўлення беларускай дзяржавы востра адчувалася запатрабаванасць у развіцці нацыянальных традыцый, і пад уплывам творчай інтэлігенцыі ў асяродку праваслаўных святароў пачалася частковая беларусізацыя, пытанне было пастаўлена і перад мітрапалітам Філарэтам. І ў 1991 годзе па яго дабраславенні была створана Беларуская біблейская камісія для перакладу Евангелля са старадаўняй грэчаскай мовы (арыгінала) на беларускую. У камісію ўвайшлі пяць чалавек — вучоныя-славісты і святары, а я стаў кіраўніком камісіі і вызначаю канчатковы варыянт перакладу.

***— Што зроблена за гэты перыяд?***

— Пераклалі чатыры кнігі Евангелля — ад Матфея, ад Марка, ад Лукі і нядаўна скончылі — ад Іаана. Зараз ідзе праца над агульным беларускім богаслужэбным выданнем Евангелля, якое, акрамя гэтых чатырох кніг, будзе мець расклад (каляндар) малітваў на кожны дзень. Гэтая праца накіравана не толькі ў дапамогу святарам, але і прыхаджанам. Напрыклад, калі служба ідзе не па-беларуску, а на старaславянскай мове, то дома можна будзе прачытаць гэтую малітву па-беларуску. Наклад кнігі будзе дастатковым, каб задаволіць усіх ахвочых.

***— А колькі іх у нас?***

— Па царкоўных правілах службу можна весці на любой мове. У многіх нашых храмах людзі падыходзяць да святара і просяць весці богаслужэнне на беларускай мове і чытаць малітвы з нашых кніг. Сёння каля дваццаці прыходаў у Беларусі цалкам перайшлі на беларускую мову, але я ўпэўнены, што пасля выхаду ў наступным годзе беларускамоўнага агульнага Евангелля іх будзе больш.

***— Але ёсць і іншае меркаванне — што з Богам трэба "размаўляць" на ўзнёслай, не зразумелай простаму народу мове?***

— Я замілаваны ў беларускую мову і цвёрда ўпэўнены, што яна павінна быць ва ўсіх сферах жыцця беларусаў, у тым ліку — у рэлігіі і адукацыі. Мой асабісты ўнёсак у гэтую святую справу — пераклад на беларускую мову чына споведзі, вячэрняй малітвы, літургіі. І ўвогуле ўсё богаслужэнне я вяду толькі на беларускай мове.

***— Якія Вашы абавязкі ў служэнні і на працы?***

— Я адзін са святароў у Менскім кафедральным саборы, акрамя таго — загадчык кафедры бібліістыкі і царкоўна-практычных дысцыплін у Інстытуце тэалогіі пры БДУ.

***— Як ідуць справы ў інстытуце пасля таго, як яго ад Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта перадалі БДУ?***

— Ёсць праблемы ў частцы аплаты працы выкладчыкаў, яны не атрымліваюць надбаўку за ступень кандыдата багаслоўя, паколькі дзяржава не прызнае царкоўныя навуковыя ступені, спасылаючыся на тое, што царква аддзелена ад дзяржавы. Аднак гэта нелагічна: калі не прызнаваць навуковыя ступені, то не трэба ўвогуле прызнаваць багаслоўскай адукацыі. Зараз мы прэтэндуем на аплату статусу па сваіх дыпломах і спрабуем абгрунтаваць гэта ў Мінпрацы і Мінадукацыі.

***— Лічыцца, што толькі высокаадукаваны чалавек мог узяцца за пераклад Святога Пісання. Якія ў Вас ступені адукацыі, як Вы асабіста прыйшлі да рэлігіі?***

— Я нарадзіўся і вырас на Брэстчыне ў вёсцы Дзівін у сям'і лростых веруючых сялян. З пяці гадоў хадзіў разам з бацькамі ў царкву, сябры-школьнікі мяне не асуджалі. Я дагэтуль удзячны класнай настаўніцы, што яна мне ў характарыстыцы напісала толькі адно — "цяжка паддаецца ўнушэнню".

У восьмым класе я ўпершыню прачытаў у дзядзькі Біблію, шмат разнастайнай атэістычнай літаратуры і хутка зразумеў, што ўсе "савецкія пастулаты" нішто ў параўнанні са Святой Кнігай — яна нясе духоўнасць і ўнутранае абагачэнне. Тады і з'явілася ў мяне мара стаць святаром, але ў той час у Беларусі не было духоўных семінарый. Я—лёгка паступіў у Інстытут замежных моў у Менску, атрымаў спецыяльнасць настаўніка англійскай і французскай моў. Паралельна самастойна вывучыў лацінскую мову, якая ляжыць у аснове многіх еўрапейскіх. Пачаў працаваць настаўнікам у суседнім сяле, але мару сваю ўсё роўна не пакінуў. Хутка паступіў у Маскоўскую духоўную семінарыю, а пасля яе заканчэння вучыўся там жа ў Духоўнай акадэміі і выкладаў у семінарыі англійскую мову. Хутка абараніў кандыдацкую дысертацыю па багаслоўі. Сем гадоў правёў у далечыні ад Радзімы, але як толькі ў Жыровічах адкрылі навучальныя ўстановы, я папрасіў, каб мяне адправілі дадому.

Зараз я выкладаю ў Жыровіцкай семінарыі практычнае кіраўніцтва для пастыраў і ў Акадэміі — пастырскае багаслоўе. У Менску ў інстытуце я выкладаю дадатковы англійскі курс па багаслоўскай тэрміналогіі, каб мае выпускнікі маглі чытаць у арыгінале багаслоўскую літаратуру.

***— У Вас вялікая сям'я, раскажыце пра яе?***

— Калі я быў настаўнікам у сяле, пазнаёміўся з адной з дочак мясцовага святара, яна потым працавала там бухгалтарам, але марыла стаць царкоўным рэгентам. Калі мы ў Маскве павянчаліся, жонку выгналі з працы за тое, што яна пайшла замуж за святара, яна стала прыбіральшчыцай. У Беларусі мы жылі некаторы час у Слоніме, з чатырма дзецьмі ў невялікім пакойчыку. Затым, ужо ў Менску, куды мяне перавялі ў 1994 годзе, епархія выдзеліла нам службовае жытло, дзе мы з шасцю дзецьмі ад шасці да васемнаццаці гадоў жывём дагэтуль. Але зараз будуем свой дом. Іншымі словамі, у мяне звычайная сям'я, дзяцей выхоўваем у хрысціянскіх традыцыях, старэйшы сын вучыцца ў БДУ на гісторыка.

***— Хутка прэзідэнцкія выбары, як паказала практыка, некаторыя святары насуперак законам рэлігіі агітуюць за нейкага кандыдата? Гэта правільна?***

— Па царкоўным законе гэта не дазваляецца, але людзі часцяком ідуць раіцца да святара па тых ці іншых пытаннях, у тым ліку — палітычных. Калі я служыў у Слоніме, да мяне прыходзілі пытацца, за каго галасаваць на першых прэзідэнцкіх выбарах, ці галасаваць за Лукашэнку? Але я і сам тады не вызначыўся, мне ён тады не падабаўся, і я нічога не мог сказаць людзям. А сам і ўвогуле не пайшоў галасаваць, хаця потым мяне многія асуджалі.

***— Якія Вашыя планы на будучыню ў частцы беларусізацыі богаслужэння?***

— Будзем перакладаць Дзеянні Святых Апосталаў і Пасланне Святых Апосталаў, яны таксама патрэбны народу.



*Гутарыла Галіна ЯФІМАВА.*

# План дзейнасці

**Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" на 2006 год**

| | | |
|---|---|---|
| **1. Арганізацыя працы камісіяў ТБМ** (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | На працягу года | Старшыні камісіяў ТБМ |
| **2. Асветніцка-педагагічная праца**<br>➢ з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у д/с і 1-ыя класы ў 2006-2007 навучальным годзе;<br>➢ з бацькамі і іх дзецьмі, якія навучаюцца ў рускамоўных і беларускамоўных адукацыйных установах;<br>➢ з арганізацыямі і ўстановамі па прапагандзе беларускай мовы і літаратуры. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **3. Праца рэгіянальных арганізацый ТБМ** па захаванні і адкрыцці беларускамоўных адукацыйных установ: збор подпісаў, лісты ў дзяржаўныя ўстановы, пікеты і інш. | На працягу года | Рэгіянальныя структуры ТБМ, Сакратарыят (каардынацыя) |
| **4. Арганізацыя курсаў** па вывучэнні беларускай мовы | Студзень-чэрвень, верасень-снежань | Сакратарыят, В. Раманцэвіч, абл. структуры ТБМ |
| **5. Стварэнне інтэрнэт-рэсурсаў** дыстанцыйнага Беларускага адукацыйнага партала навучання на беларускай мове. | На працягу года | Часовая інфармацыйная камісія, С. Кручкоў |
| **6. Супрацоўніцтва** з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№ 48 ад 27.08.2001г.) "*Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі*", Закона *"Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь"*, па зменах у Законе аб мовах. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **7. Супрацоўніцтва** з Дзяржстандартам па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы ў інструкцыях і на ўпакоўках тавараў, якія маюць абарачэнне на тэрыторыі Беларусі, Міністэрствам сувязі па пытаннях выпуску беларускамоўнай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **8. Супрацоўніцтва** з банкаўскімі структурамі па пытаннях афармлення на беларускай мове бланкаў, рэквізітаў і іншай банкаўскай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **9. Праца з прадпрыемствамі** па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **10. Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў** на "Наша слова", "Новы час" і інш.беларускамоўныя газеты і часопісы | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| **11. Правядзенне семінараў** па тэме "Я магу жыць лепей". | На працягу года | Сакратарыят (Л. Дзіцэвіч) |
| **12. Арганізацыя і правядзенне семінараў** па гісторыі Беларусі | Студзень – чэрвень | Сакратарыят |
| **13. Правядзенне "круглага стала"** па тэме "Роля беларускай мовы ў развіцці інтэлекту". | Кастрычнік | М. Савіцкі, Я. Стэпановіч, Л. Майсеня |
| **14. Адзначыць наступныя даты:** | | |
| ➢ 85 гадоў як быў заснаваны Беларускі музей у Вільні; | | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| ➢ 30-годдзе Дома літаратара; | | |
| ➢ Міжнародны дзень роднай мовы; | 21 лютага | У. Кошчанка |
| ➢ 90-годдзе "Беларускай хаткі"; | 12 сакавіка | Сакратарыят |
| ➢ 100-годдзе заснавання выдавецтва "Загляне сонца ў наша ваконца" (выдаць кішэнны каляндарык); | травень | |
| ➢ 100-годдзе выхаду першага нумара газеты "Наша доля"; | 14 жніўня | Сакратарыят |
| ➢ 100-годдзе выхаду першага нумара газеты "Наша Ніва" (выдаць кішэнны каляндарык). | 23 лістапада | |
| **15. Ушанаваць памяць беларускіх дзеячаў:** | | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |
| ➢ Яўхіма Карскага, 145 гадоў; | 3 студзеня | |
| ➢ Генадзя Каханоўскага, 70 гадоў; | 8 студзеня | |
| ➢ Тадэвуша Касцюшкі, 260 гадоў; | 4 лютага | |
| ➢ Міколы Улашчыка, 100 гадоў; | 14 лютага | |

# План дзейнасці

**Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" на 2006 год**

| | | |
|---|---|---|
| ➢ Канстанціна Тышкевіча, 200 гадоў; | 17 лютага | |
| ➢ Кандрата Крапівы, 110 гадоў; | 5 сакавіка | |
| ➢ Усевалада Ігнатоўскага, 125 гадоў; | 19 красавіка | |
| ➢ Змітрака Бядулі, 120 гадоў (выдаць кішэнны каляндарык); | 23 красавіка | |
| ➢ Міколы Ермаловіча, 85 гадоў; | 29 красавіка | |
| ➢ Янкі Журбы, 125 гадоў; | 1 траўня | |
| ➢ Барыса Сачанкі, 70 гадоў; | 15 траўня | |
| ➢ Івана Луцкевіча, 125 гадоў; | 28 траўня | |
| ➢ Элізы Ажэшкі, 165 гадоў; | 6 чэрвеня | |
| ➢ Цёткі, 130 гадоў; | 15 ліпеня | |
| ➢ Сяргея Новіка-Пеюна, 100 гадоў (марка-канверт); | 27 жніўня | |
| ➢ Яўгена Ціхановіча, 95 гадоў; | 25 лістапада | |
| ➢ Максіма Багдановіча, 115 гадоў; | 9 снежня | |
| ➢ Міколы Равенскага, 120 гадоў; | 17 снежня | |
| **16. Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:** | | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |
| ➢ Васіля Сёмухі, 70 гадоў | 18 студзеня | |
| ➢ Янкі Сіпакова, 70 гадоў | 15 студзеня | |
| ➢ Міхася Міцкевіча – 80 гадоў | 31 студзеня | |
| ➢ Аляксея Пяткевіча, 75 гадоў | 30 сакавіка | |
| ➢ Івана Чыгрына, 75 гадоў | 10 красавіка | |
| ➢ Васіля Якавенкі, 70 гадоў | 5 траўня | |
| ➢ Віктара Шматава, 70 гадоў | 9 траўня | |
| ➢ Уладзіміра Някляева, 60 гадоў | 11 ліпеня | |
| ➢ Вячаслава Чамярыцкага, 70 гадоў | 22 ліпеня | |
| ➢ Генадзя Бураўкіна, 70 гадоў | 28 жніўня | |
| ➢ Ніла Гілевіча, 75 гадоў | 30 верасня | |
| ➢ Міколы Гіля, 70 гадоў | 15 кастрычніка | |
| ➢ Генадзя Цыхуна, 70 гадоў | 30 кастрычніка | |
| ➢ Анатоля Вярцінскага, 75 гадоў | 18 лістапада | |
| ➢ Эрнеста Ялугіна, 70 гадоў | 19 лістапада | |

*План зацверджаны на пасяджэнні Рады ТБМ 29 студзеня 2006 г.*

# Справаздача

**аб працы Гарадзенскай абласной арганізацыі Грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Ф. Скарыны" у 2005 годзе**

Цягам 2005 года арганізацыя працавала згодна са Статутнымі патрабаваннямі і зацверджаным планам работы. Цягам года работа вялася пры цесным узаемадзеянні з Гарадзенскім гарадскім аддзяленнем ТБШ (Т. Канопкіна), гістарычна-культурным клубам "Паходаня" (М. Таранда), Гарадзенскім гарадскім і раённым аб'яднаннямі "ТБМ імя Ф. Скарыны" (І.Буднік, А. Пяткевіч), ГА ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сілаў Гародні, М. Мельнікаў), ТБВШ (А. Астроўскі).

У студзені 2005 года сябры ТБМ прынялі ўдзел ў віншаванні пераможцаў абласной алімпіяды па беларускай мове. Ад імя абласной арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны уручаны 30 кніг (В. Быкаў, В. Іпатава).

Быў арганізаваны збор подпісаў сярод грамадзян Гародні з просьбай рабіць аб'яву прыпынкаў па-беларуску.

У лютым адбылася сустрэча з кіраўніцтвам тралейбуснага ўпраўлення і аўтапарку, а таксама з супрацоўнікамі транспартнага аддзелу гарвыканкаму наконт аб'яваў прыпынкаў, надпісаў і г. д. на роднай мове. Паразуменне нібыта знойдзена, але практычная справа далей слоў не пайшла.

У сакавіку адбылася сустрэча абласной арганізацыі, гарадской і раённай арганізацый ТБМ з намеснікам старшыні аблвыканкаму В.М.Лявонавым. Былі абмеркаваны пытанні па пашырэнні беларускага школьніцтва, візуальнай інфармацыі, аб'яў у транспарце. Справа кранулася з месца. Сіламі абласнога ГА ТБМ у адной са студый тэлерадыёкамітэта зроблены запіс аб'яў прыпынкаў па-беларуску.

З канца кастрычніка 2005 года на двух тралейбусах на кожным з 10 маршрутаў аб'явы гучаць на роднай мове. Зроблены запіс аб'яў па-беларуску і для аўтобуснага парку. Плануецца, што аб'явы па-беларуску будуць рабіцца на 14 аўтобусах з 34-х маршрутаў у лютым 2006 года. Усе праязныя білеты (месячныя і дэкадныя) таксама з лютага будуць распаўсюджвацца ў беларускамоўным варыянце, як было абвешчана па мясцовым тэлебачанні, "па просьбе грамадзян і грамадскіх арганізацый".

Была арганізавана актыўная падпіска на газету "Наша слова" на другое паўгоддзе 2005 года (травень-чэрвень). Падпісана 53 асобнікі. На першае паўгоддзе 2006 года - 50 асобнікаў.

Адбыліся сустрэчы з кіраўнікамі банкаў Гародні наконт адкрыцця рахункаў грамадзянамі па-беларуску. На жаль, не ўсе кіраўнікі пагадзіліся з прапановамі ТБМ. Толькі ў 404-м філіяле "Беларусбанка" пайшлі насустрач, дзякуючы кіраўніку Алегу Пятровічу Бягунову. Камп'ютарныя беларускамоўныя праграмы дагавораў (пенсійны, зарплата і г.д.) ёсць, але іншыя банкі не пагаджаюцца карыстацца імі ў паўсядзённай практыцы.

Падчас паўторных выбараў у Палату прадстаўнікоў па 52-й выбарчай акрузе сябры ТБМ імя Ф. Скарыны ўдзельнічалі ў нагляданні.

У першым паўгоддзі распаўсюджвалася газета "Наша слова" па школах горада Гародні. На жаль, кіраўнікам ТБМ і распаўсюджвальнікам іншымі дырэктарамі было сказана, што не пажадана займацца дастаўкай гэтага выдання.

Сумесна з Гарадзенскім гарадскім аддзяленнем ТБШ ладзіліся вечарыны, прысвечаныя 100-годдзю М. Васілька, 75-годдзю Ул. Караткевіча, 85-годдзю пісьменніка А.Карпюка.

Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя (27.08 2005), рэгулярна праводзіліся пасяджэнні Рады (6.03, 15.05).

***А. Місцюкевіч,***
*старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Францішка Скарыны", Гародня.*
*24 студзеня 2006 г.*





*Алесь Петрашкевіч*

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## *Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Марына.** Колькі гадкоў жаўтаротаму?

**Мнішак.** Можа дваццаць, можа дваццаць два...

**Марына.** Такі з першага погляду сам прысохне. *(Круціцца перад люстрам.)* Не калека, не выродa, дзякуй Дзеве Марыі. Зноў жа, княжна, хоць і сандамірская. Потым — Мнішакі мы ці не Мнішакі...

**Мнішак.** Ай, і завару я кашу!..

**Марына** *(падкрэслена)*. Мы, пан Мнішак, мы заварым кашу.

**Мнішак.** А я хіба пярэчу?.. І як радасна, панна Марыяна, ўсведамляць, што мы так падобны душамі, марамі і памкненнямі.

**Марына.** Вішанька ад яблынькі не далёка падае. І не цягні валынку — згараю ад цікавасці пабачыць суджанага.

**Мнішак.** Бягу! Чакай тут. *(Спешна выходзіць.)*

*Марына рэпеціруе перад люстрам сустрэчу з царэвічам.*

*У расчыненыя дзверы ўваходзіць Дзмітрый. На ім строгі, элегантны еўрапейскі гарнітур. Мнішак і Рангоні спыняюцца ў праёме дзвярэй. На Рангоні апратка папскага нунцыя. Дзмітрый уражаны прыгажосцю Марыны. У захапленні ён падсвядома, бы пад гіпнозам, набліжаецца да дзяўчыны. Яна павалі ідзе яму насустрач, а сустрэўшыся, апускаецца на адно калена. Ён асцярожна падымае яе з падлогі і, зачараваны, не адпускае, а разглядае тварык юнай княжны, як неверагоднае з'явішча з нябёсаў. Рукі яго трымаюць дзявочыя плечыкі, слізгаюць да таліі. Ён не чуе сваіх слоў.*

**Дзмітрый** *(разгублена, паўшэптам)*. Падарунак неба... Гасподні промысел... Я яшчэ ніколі не бачыў такой прыгажосці.

*Вочы Марыны напаўняюцца слязамі, яны плачуць.*

**Марына** *(дакрануўшыся далонькай шчакі Дзмітрыя, валасоў.)* Вы паміралі... Я ведала і... малілася. Пан Бог і свента Марыя мяне пачулі... і царэвіч тут, у нас, са мною...

*Дзмітрый асцярожна, нясмела, далікатна дакранаецца губамі да валасоў, ілба, вачэй, шчок Марыны. І вусны іх зліваюцца ў пацалунку. За плячыма ў Дзмітрыя Марына робіць рукой знакі, каб бацька і Рангоні зніклі, але тыя чакаюць, калі пацалунак скончыцца.*

**Рангоні** *(улавіўшы момант)*. Мір вам і дабраслаўленне, дзеці мае. *(Асяняе крыжам маладых людзей.)*

*Дзмітрый і Марына спахопліваюцца. Марына падыходзіць да Рангоні, цалуе крыж і руку нунцыя і выходзіць з гасцёўні. Дзмітрый у разгубленасці, нават ашаломленасці.*

**Мнішак.** Я рады вашаму знаёмству і ўзаемнай прыязнасці, ваша вялікасць. Бардзо рады...

**Рангоні.** А на дабраслаўленне папскага нунцыя, вашай вялікасці ўсё ж варта адказаць. *(Падносіць крыж для цалавання.)* Гэта здыме пэўную прыкрасць.

**Дзмітрый.** Даруйце, праваслаўны я, і проста не ведаю...

**Рангоні.** Галоўнае, што мы хрысціяне ў пана Бога. *(Асяняе Дзмітрыя крыжам.)* І няхай царэвіча нічога не засмучае.

*Кароткая паўза і Дзмітрый цалуе крыж.*

Раб божы князь Ежы Мнішак, за здароўе і дабрадзейнасць якога мы ўсе шчыра молімся, паведаміў мне пра намер высокапаважанага царэвіча Дзмітрыя Іаанавіча заняць па праву прыроджанаму трон на Маскоўі. Жаданне богаўгоднае і заслугоўвае дабраслаўлення, але наўрад ці магчыма яго здзяйсненне без дапамогі яго святейшаства папы і падтрымкі рымскай курыі. Я, як папскі нунцый пры яго каралеўскай мосці Жыгімонце III, мог бы аказаць царэвічу пэўнае садзеянне ў арганізацыі зносін з пантыфікам святога пасаду і сустрэчы з каралём Рэчы Паспалітай, але пры пэўных умовах... Спадзяюся, царэвіч мяне разумее.

**Дзмітрый** *(дзелавіта)*. Называйце вашы ўмовы. І, бадай што, прысядзем. *(Садзіцца ў крэсла, закідвае нагу на нагу.)*

*Рангоні і Мнішак шматзначна пераглядаюцца.*

**Рангоні.** Пры вацарэнні на Маскоўі з нашай дапамогай і спрыяннем, царэвічу давядзецца падначаліць вашу грэчаскую царкву нашай рымскай — гэта, па-першае, а па-другое, калі будзе ваша пісьмовае абавязацельства перад каралём Жыгімонтам паспрыяць яму ў будучым набыцці шведскай кароны і аб'яднанні Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай.

**Дзмітрый.** У ваяводы Мнішака, відаць, таксама ёсць свае ўмовы?

**Мнішак.** Не без гэтага, ваша вялікасць, але самыя сціплыя...

**Дзмітрый.** Выкладвайце без лішніх цырымоній, я спяшаюся. Аднак пры маёй умове і не вельмі вялікай, у параўнанні з умовамі нунцыя яго святейшаства папы. Карацей, у самы блізкі час я папрашу рукі, князь Ежы, вашай дачкі Марыяны. Зачараваны. Закаханы, вазьму ў жонкі царыцаю і неадкладна.

**Мнішак.** А як не пойдзе?..

**Дзмітрый.** Пойдзе! Я жанюся па каханні, а не дзеля таго, каб справакаваць шаноўнага ваяводу і яго радню на дзейсную дапамогу ў маім прадпрыемстве. Ліцвіны, казакі паўднёвыя, северскія і данскія — мая асноўная апора. Потым ні мне, ні Марыяне свайго лёсу не мінуць.

**Мнішак** *(падумаўшы)*. Гэта па мне, ваша вялікасць. Люблю дзелавых людзей і адкажу справай: заручыны ці нават вянчанне можна здзейсніць неадкладна, калі ўжо такое каханне, але, як гэта па-руску, брак фактычны аднясем да зацвярджэння жаніха на пасадзе. А таму, найперш, адразу па ўступленні ў правы царскія перадаць мне, Ежы Мнішаку, адзін мільён у польскіх злотых для прыезду ў Маскву з аховай і картэжам царыцы Марыяны.

**Дзмітрый.** Толькі і ўсяго?..

**Мнішак.** Марыяне ж прыслаць дыяменты і срэбра сталовае са скарбу царскага, а таксама аддаць ёй жа Вялікі Ноўгарад і Пскоў з усімі жыхарамі, гарадамі малымі, прыбыткамі і ўсім такім у поўнае валоданне, як валодалі цары былыя.

**Рангоні.** І каб царыца Марыяна вольная была ў гарадах і землях сваіх будаваць каталіцкія храмы і манастыры са школамі лацінскімі; пры двары сваім яна таксама вольна трымаць лацінскіх духоўных і, вядома ж, беспяшкодна адпраўляць богаслужэнне.

**Дзмітрый.** Гэта ўжо, як пажадае царыца, будзе.

**Мнішак** *(заахвочаны падатлівасцю Дзмітрыя)*. Мне ж адпісаць княства Смаленскае і Северскае ў патомнае валоданне.

**Дзмітрый.** Названыя княствы — уладанні вялікакняскія, але калі ты іх возьмеш, а ліцвіны-беларусцы табе іх аддадуць, то мне чаго пярэчыць?

**Мнішак.** Пры выпадку ж, калі царэвіч не дасягне кароны царскай на працягу, скажам, года, то за Марыянай застанецца права ўзяць назад сваю згоду на шлюб і каранацыю, а захоча, то няхай сабе чакае і яшчэ год.

**Дзмітрый.** Гэта яе воля. Але якой дзяўчыне, хоць яна і княжна, не ахвота стаць царыцаю і адразу ж? Бы ў казцы... Так што, рыхтуй, цесць, паперы. А я пайшоў. *(Устае, каб пайсці.)*

**Рангоні** *(здзіўлена)*. Куды ж вы?

**Дзмітрый.** Як куды? Сватаць дзяўчыну ў жонкі і на царства.

**Рангоні** *(устае з крэсла)*. Навошта ж так спяшацца?

**Дзмітрый** *(пасміхаючыся)*. Нунцыю гэтага не зразумець...

**Рангоні.** Што ваша вялікасць хоча гэтым сказаць?

**Дзмітрый.** Толькі тое, што сэрца маёй вялікасці засталося ў Марыяны. *(Выходзячы.)* Папрашу пазычыць яе сэрца хоць на час...

**Рангоні.** Раю царэвічу неадкладна падрыхтаваць пасланне яго святейшаству папе. І я абяцаю накіраваць яго па прызначэнні неадкладна!

**Дзмітрый.** Неадкладна я іду шукаць Марыяну. *(Пакідае гасцёўню).*

**Рангоні.** Неверагодна!

**Мнішак.** Бойкі малец... і з характарам. І хватка сапраўднага мужчыны! Такі не тое што дзеўку, карону і шапку тую сходу возьме!

**Рангоні.** А калі гэты бойкі малец ніякі не царэвіч?!

**Мнішак.** А нунцыю якая розніца?

**Рангоні.** ?

**Мнішак.** Пакуль царыца Марыяна будзе пры ім, а яна пры ім пэўна ж будзе , фартуна нас не падмане. Ваша энэнцыя яшчэ не ведае маёй Марыяны!

**Рангоні.** Даў бы пан Бог...

**Мнішак.** Не дасць пан Бог, самі возьмем...

### VI

*То нарастаючы, то заціхаючы гудзе, кліча набатны звон. Седзячы на троне, Барыс Гадуноў то ў трывозе ўслухоўваецца ў перазвон царкоўных званоў, то ў жаху закрывае далонямі вушы. Ён у разгубленасці і перапалоху курчыцца на троне, падабраўшы пад сябе ногі.*

*Нясмела ўваходзіць Цырымоніймайстар з папяровым скруткам.*

**Цырымоніймайстар** *(са страхам, паўшэптам)*. Вялікі гасудар, грамата...

**Гадуноў** *(злосна)*. Якая яшчэ грамата?!

**Цырымоніймайстар.** Падкінутая, вялікі гасудар...

**Гадуноў** *(гнеўна, з абурэннем)*. Вялікаму гасудару падкідная грамата! На вісельню! У затачэнне, нягодніка! *(Працягвае руку па грамату.)* Хто асмеліўся?! *(Забірае скрутак.)*

**Цырымоніймайстар.** Калі верыць подпісу, то Дзмітрый.

**Гадуноў.** Які яшчэ Дзмітрый?!

**Цырымоніймайстар.** Іаанавіч, царэвіч усмерчаны...

**Гадуноў** *(істэрычна)*. Вон з вачэй маіх, пакуль цэлы!

*Цырымоніймайстар паспешліва выходзіць. Гадуноў разгортвае скрутак, прабягае яго вачыма, затым у ярасці камечыць яго, кідае на падлогу і раз'юшана топча нагамі. Змарыўшыся, апускаецца на трон.*

*(Ціха.)* Мар'ю... *(Голасна.)* Я сказаў — сюды царыцу Мар'ю!..

*З'яўляецца Цырымоніймайстар.*

Мар'ю клiч, ёмасам тваю маць!

*Цырымоніймайстар знікае.*

Кара божая... Праклён д'ябальскі!.. Ён не толькі жывы! Ён мне пагражае?! Цару Барысу Гадунову пагражае...

*Прыбягае перапалоханая царыца Мар'я.*

**Мар'я.** А я ўжо падумала, што цябе тут нехта закалоў ці зарэзаў...

**Гадуноў.** Цур на цябе, дурніцу!..

**Мар'я.** Вядома ж цур... а што ж яшчэ?!

**Гадуноў** *(ківае на растаптаны скрутак)*. Падымі грамату і чытай. *(Узвышае голас.)* Услых чытай! Але не гучна...

**Мар'я.** У цябе ўжо і прачытаць няма каму...

**Гадуноў.** Размовы!.. Сакрэтная, падкінутая папера, а іншыя панясуць на языках...

*Мар'я падымае скрутак, разгладжвае яго на падлозе, стаўшы на калені.*

**Мар'я.** А хто гэта табе так доўга напісаў?..

**Гадуноў.** Царэвіч Дзмітрый Іаанавіч...

**Мар'я.** Свят! Свят! Свят! *(Садзіцца на падлогу, тройчы хрысціцца.)*

**Гадуноў.** І не з таго свету, а з Вялікага княства напісаў.

**Мар'я.** Сілы гасподнія! Святы Божа!

**Гадуноў** *(праз зубы, патрабавальна)*. Чытай!..

**Мар'я** *(чытае не без цяжкасці, але выразна)*. «Шкада нам, што ты душу сваю, па вобліку божаму створаную, так апаганіў і ва ўпартасці сваёй пагібель ёй рыхтуеш: хіба не ведаеш, што ты смертны чалавек? І трэба было б табе, Барыс, задаволіцца тым, што гасподзь Бог даў, а ты, насуперак волі божай, будучы нашым падданым украў у нас дзяржаву з д'ябальскай дапамогай. Сястра твая, жонка брата нашага Фёдара, дазволіла табе кіраванне ўсёй дзяржаваю, і ты, карыстаючыся тым, што брат наш па бальшыні займаўся службаю божаю, пазбавіў жыцця некаторых наймагутных князёў пад рознымі выдуманымі прычынамі; як тое Шуйскіх, Івана і Андрэя, потым лепшых гараджан сталіцы нашай і людзей, адданых Шуйскім, цара Сімяёна пазбавіў зроку, сына яго Івана атруціў; ты не пашкадаваў і асобаў духоўных: мітрапаліта Дзіянісія саслаў у манастыр, сказаўшы брату нашаму Фёдару, што ён нечакана памёр, а нам вядома, што ён і да гэтага часу жывы ў затачэнні; загубіў ты і іншых, імёны якіх не помніцца, таму што мы былі тады не ў поўных летах».

**Гадуноў.** Малы, а памяць д'ябальская... Чытай!..

**Мар'я.** «Але хоць мы былі малы, ты памятаеш, аднак, колькі разоў у граматах сваіх мы табе напаміналі, каб ты падданых нашых не губіў; памятаеш, як мы накіравалі прыхвасня твайго Андрэя Клешніна, якога прыслаў да нас у Угліч брат наш Фёдар і які, справіўшы пасольства, здзейсніў непавагу да нас. Мы былі табе перашкодаю ў дасягненні пасаду, і вось, загубіўшы вяльмож, пачаў ты гастрыць нож і на нас, падрыхтаваў дзяка нашага Міхайлу Біцягоўскага і 12 спальнікаў з Мікітам Качалавым і Восіпам Валаховічам, каб нас забілі, але па яго старанні мы выратаваны былі ад смерці, табою нам вызначанай». *(Да Гадунова ў жаху.)* Барыс, гасудар вялікі, ды ён пра цябе ведае больш, чым ты сам пра сябе і пра ўсё гэта... А калі ён, малалетка, ведае, як і што было, то царыца Марфа ведае ў сто разоў больш. Яна, ведзьма, усё ведае... і як царэвіча паповым сынам падмянілі, і як у Літву сплавілі...





Алесь Петрашкевіч

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.

**Гадуноў.** Пра тое ж думаю. *(Крычыць.)* Чалавек! *(Звоніць у званок, калоціць «дзяржаваю» аб падлакотнік трона.)*

*З'яўляецца перапалоханы Цырымонімайстар.*

Патрыярха Іова, царэўну-маці Марфу, князёў Васілія Шуйскага і Васілія Галіцына, а таксама двараніна думнага Міхайлу Тацішчава і пасла майго Афанасія Уласева неадкладна сабраць і прад вочы царскія паставіць!

*Цырымонімайстар кланяецца і выходзіць.*

*(Мар'і.)* Вывудзіць хачу: самазванец гэта ці сапраўдны царэвіч.

**Мар'я.** Хто-хто, а Шуйскі добра ведае!..

**Гадуноў.** Чытай пакуль і не лезь, куды табе лезці не варта!

**Мар'я** *(чытае).* «Брату нашаму ты сказаў, што мы самі зарэзаліся ў прыступе падучай хваробы; ты ведаеш, як брат наш гараваў аб гэтым; ён загадаў цела наша ў Маскву прывезці, але ты падгаварыў патрыярха, і той стаў пераконваць, што не варта цела самагубцы хаваць разам з памазанікамі божымі; тады брат наш сам хацеў ехаць на пахаванне ў Угліч, але ты сказаў яму, што ў Угліччы паветрые вялікае»...

**Гадуноў.** Дзіва дзіўнае, зарэзаны, а ўсё дакладна ведае...

**Мар'я.** Бо не ён быў зарэзаны...

**Гадуноў** *(настойліва).* Чытай і не ўсоўвай свой пятак!

**Мар'я** *(чытае)* «...але ты сказаў яму, што ў Угліччы паветрые вялікае, а з другога боку падвёў да Масквы хана крымскага. У цябе было ўдвая больш войска, чым у непрыяцеля, але ты трымаў яго у абозе пад Масквою і забараніў пад смяротную кару нападаць на ворага. Гледзячы тры дні ў вочы татарам, ты адпусціў іх на волю і хан выйшаў за межы нашай дзяржавы. Ты вярнуўся пасля гэтага дамоў і толькі на трэці дзень пусціўся ў пагоню. А калі Андрэй Клабукоў перахапіў надпальшчыкаў і яны аб'явілі, што ты загадаў ім паліць Маскву, то ты навучыў іх агаварыць у гэтым Клабукова, якога загадаў схапіць і на катаванні замучыць. Па смерці брата нашага Фядара (якую ты прыспешыў) пачаў ты падкупляць вялікімі грашыма ўбогіх, кульгавых, сляпых, якія паўсюдна пачалі крычэць, каб ты быў царом; а калі ты ім стаў «дабрынёю» тваю адчулі Раманавы, Чаркаскія, Шуйскія. Апамятайся і зладзействам сваім не прымушай нас да вялікага гневу. Аддай нам наша, і мы табе, дзеля Бога, адпусцім усе твае злачынствы і мейсца табе спакойнае прызначым: лепш табе на гэтым свеце нешта пацярпець, чым у пекле вечна гарэць за столькі душ, табою загубленых». *(Маўчыць у разгубленасці.)*

**Гадуноў.** Што змоўкла?

**Мар'я.** Бо ўсё. Ці табе гэтага мала?.. Дзіцё неразумнае, а склаў, аспід, як мудрэц.

**Гадуноў.** Дурніца! Аспіду гадоў 22-23. У яго ўжо пад рукою тысячы ліцьвінаў, палякаў, а найбольш казакоў... І пісаў, можа, зусім не ён.

**Мар'я.** А хто ж тады?..

**Гадуноў.** Можа, князі нашы з дваранамі і баярамі, а можа, канцлер Сапега з каралём Жыгімонтам. Але грызе мяне іншае: няўжо сапраўды папоўскага сына зарэзалі, а царэвіча ў Вялікае Княства вывезлі?

**Мар'я.** А чаму б і не? Усе яны супраць нас, змеі падкалодныя, а ты Шуйскага прыгрэў... Галіцын табе першы дружбак...

**Гадуноў.** Усе, ды не ўсе супраць!

**Мар'я.** Ад таго нам не лягчэй. І розніцы ніякай — сапраўдны табе Дзмітрый пішa ці нейкі Лжэдзмітрый.

**Гадуноў.** Разумніца. Вось так мы яго назавём і лжывае імя, як знатным, так і чэрні кінем... Але ўсё ж паўстае пытанне: ва ўласнай галаве самазванца выспела думка пра самазванства, ці яна пасеяна ў яго буйнай галаве некім іншым? І зноў жа, наколькі шчыра ён верыць у сваё царскае паходжанне? Дзіцём жа горкім у тым Угліччы быў...

**Мар'я.** Не разумею, якая табе ў тым розніца.

**Гадуноў** *(узрываецца).* Не разумееш, таму што дурніца! Царыца-дурніца — гэта жахліва!..

**Мар'я.** Якая ўжо ёсць...

**Гадуноў.** Вось і сядзі моўчкі, пакуль цэсар разважае!

**Мар'я** *(устае з падлогі).* Позна, цэсар, разважаць спахапіўся. А па мне, калі ўжо зарэзаў, то пераканайся, каго зарэзаў.

**Гадуноў** *(ціха, але ўнушальна).* Не змоўкнеш — задушу ўласнымі рукамі, каб пераканацца, што не памыліўся.

**Мар'я** *(абтрасаючы адзенне).* Як не змоўкнуць? Змоўкну.

**Гадуноў.** Каб ён быў абманшчык, а не падмануты, то што б яму каштавала прыдумаць хоць нейкія падрабязнасці свайго выратавання і жыцця за мяжой. А ён гэтага ў пасланні сваім не зрабіў. Значыць...

**Мар'я.** Нічога не значыць, бо не падстаўны, а сапраўдны, а мо і падстаўны, не сапраўдны. Хто цяпер разбярэ — гадоў колькі мінула.

**Гадуноў.** Тады паўстае другое пытанне: кім жа быў выгадаваны сапраўдны Дзмітрый ці падрыхтаваны Лжэдзмітрый? Не сам жа ён дадумаўся захапіць пасад. Хто пераканаў яго ў царскім паходжанні? Каму было выгадна і неабходна з'яўленне прэтэндэнта на пасад маскоўскі? Ворагам маім унутраным ці замежным?..

**Мар'я.** І тым, і тым.

**Гадуноў.** Польская інтрыга, вялікакняская помста? Што?! Але ж кароль Жыгімонт занадта палахлівы, а з адной помсты такія сур'ёзныя справы не робяцца. Хоць Сапегу я і дапёк, і насаліў, што трэба.

**Мар'я.** Ён і мог згаварыцца з нашымі маскоўскімі ворагамі. І раней, чым ты зарэжаш ці адкруціш галаву царэвічу Дзмітрыю, здымі галовы сваім князям ды баярам, пакуль яны не здалі цябе жывым ці атручаным гэтаму самому Дзмітрыю, хоць ён сапраўдны, хоць падстаўны.

**Гадуноў.** І чаму ты сказала Дзмітрыю, а не Лжэдзмітрыю?

Мар'я. Таму, што ты цар-разумнік царыцы-дурніцы сам надоечы казаў, што калі царэвіч Дзмітрый аб'явіўся ў князя Вішнявецкага, туды адразу ж прыскакаў чалавек Сапегі, беглы масквіцянін, і апазнаў царэвіча, на сапраўдныя прыкметы недарэзанага ўвагу звярнуў — дзічкі на твары і адну руку карацейшую за другую.

*Уваходзіць Цырымонімайстар.*

**Цырымонімайстар.** Вялікі гасудар, па загаду царскаму ўсе сабраны ў сенях палаты і шчаслівыя прадстаць перад вачыма царскімі.

**Гадуноў.** Зараз я ўсіх і ашчаслўлю. Першымі ўпусціш патрыярха з Шуйскім, а потым па майму знаку па аднаму і па парадку Тацішчава, Уласева, Галіцына, Басманава і апошняй царыцу Марфу.

*Цырымонімайстар кланяецца і выходзіць.*

**Мар'я.** Мне выйсці?

**Гадуноў.** Сядзь побач. Патрыярха паслухаем і іншых дапытаем. Нутром чую, з іх нехта мне гэту грамату падпёр таемна...

*Мар'я садзіцца побач з Гадуновым на месца царэўны. Уваходзяць патрыярх Іоў і Шуйскі. Апошні падае на калені і згінаецца ў зямным паклоне.*

**Іоў.** Мір дому царскаму! Многая лета вялікаму гасудару і гасударыні зямлі рускай. *(Асяняе крыжам цара і царыцу.)*

**Гадуноў.** Прымаем з мірам. *(Шуйскаму.)* І ты, князь Васілій, падыміся, не поўзай, як прасталюдзін. Ты не халоп у мяне, а прыяцель душэўны.

*Спачатку цар, а потым царыца цалуюць патрыяршы крыж. Шуйскі падымаецца з каленяў.*

Папытаць цябе хацеў, святейшы патрыярх: званы па ўсёй Маскве цэлае ранне набатам гулі, а потым ураз змоўклі... Можа, свята якое, а я не ведаю...

**Іоў.** Каб жа свята, вялікі гасудар... Зламыснікі акаянныя на званіцы цэркваў прабраліся і ўдарылі ўраз.

**Гадуноў.** Навошта ўдарылі? З якое прычыны?

**Шуйскі.** Каб народ сабраць.

**Іоў.** Ды граматы абвяшчаць, нібыта царэвічам Дзмітрыем пісаныя. Учора і мне яго д'ябальскія пісьмёны таемна падкінулі. А сёння з раніцы з князем Васіліем *(глядзіць на Шуйскага)* давялося з Лобнага мейсца людзішак пераконваць...

**Гадуноў.** У чым пераконваць?

**Іоў.** Адносна царэвіча Дзмітрыя, вядома ж, як дзецям няцямлівым гаварыць спрабавалі, што і цару-бацюхну, і царыцы-матухне, і нам, набліжаным да пасаду гасудараву, і ўсяму свету праваслаўнаму вядома, што князя Дзмітрыя Іаанавіча дакладна не стала на Угліччы гадоў 17 таму, хіба ж варта пра яго як пра жывога плявкарыць, калі ляжыць ён у тым жа Угліччы ў саборнай царкве. А на пахаванні няшчаснага нага і маці яго, і сваякі былі, і адпяваў нябожчыка Гласій мітрапаліт са святым сінодам. І пра тое даводзілі, што ты, вялікі гасудар, сам пасылаў на пахаванне баяр сваіх і шаноўнага князя Васілія Іванавіча *(глядзіць на Шуйскага)* са таварышы. Гаварылі і пра плёткі зламыснікаў і ворагаў царскіх. І пра тое, што ці не зладзейская намысліцы, ці не д'ябальская то захады. Ці ж верагодная то справа, каб князю Дзмітрыю з памерлых уваскрэснуць раней за агульнае ўваскрашэнне. *(Хрысціцца.)*

**Гадуноў.** Хораша гаварылі, гаварун. А ці ўгаварылі? Ці пераканалі?

**Іоў.** Каб жа. Вяліка герась. Глыбака д'ябальская спакуса.

**Гадуноў.** Значыць, не тое гаварыла ваша святейшаства, не тым пераконвала...

**Шуйскі.** Я стральцам знак даў. Іх перакананні многім ад галавы да пят дайшлі...

**Гадуноў.** З гэтага пачынаць трэба было... *(Пасля паўзы.)* А ты сам, князь Шуйскі, упэўнены, што пахаваў не якога-небудзь хлопчыка, а менавіта царэвіча Дзмітрыя?!

**Шуйскі** *(узмаліўшыся).* Міласцівы гасудар, як можна ў ва мне сумнявацца.

**Гадуноў.** Можна! Я цяпер і самому сабе не веру. Цалуй крыж патрыярху, што хаваў царэвіча Дзмітрыя!

*Шуйскі цалуе крыж.*

І памятай: смертную клятву даеш! На Лобным мейсцы таксама крыжовую клятву дасі і столькі разоў, колькі спатрэбіцца... Чым народ у натоўпе на словы патрыярха адклікаўся?

**Шуйскі.** Вядома, шумам, гамам — хіба разбярэш.

*Гадуноў звоніць у званок. Уваходзіць Тацішчаў, кланяецца ў пояс.*

**Гадуноў.** Міхайла Тацішчаў, калі ты не паўторыш слова ў слова тое, што выкрыкваў з натоўпу на мой кошт, і што чуў Васілій Шуйскі, які стаяў побач з табой, я пазбаўлю цябе жыцця.

**Тацішчаў.** Калі я іх паўтару, вялікі гасудар таксама пазбавіць мяне жыцця.

**Гадуноў.** Тады выбірай! Твая воля...

**Тацішчаў.** Выбару няма, я перакажу тыя словы. Вось яны: «Патрыярх і Шуйскі пра царэвіча кажуць паняволі, баючыся цара Барыса, а Барысу няма чаго іншага гаварыць; калі гэтага яму не гаварыць, то трэба царства пакінуць і пра жыццё сваё падумаць».

**Гадуноў** *(вытрымаўшы паўзу).* Жыві, Міхайла, ты смелы чалавек і адданы слуга мне. Не заставацца ж цару з баязліўцам і круцялём Васілём Шуйскім.

*Шуйскі апускаецца на калені і схіляецца ў зямным паклоне, ды так і заціхае надоўга.*

*(Да Іова.)* Што будзем прамышляць, ваша праасвяшчэнства, каб за жыцці свае, дзяржаву і веру пастаяць перад ворагам унутраным і знешнім? Паведаеш гэта ў прысутнасці князя Васілія Галіцына, ваяводы Пятра Басманава і пасла майго Афанасія Уласева. *(Звоніць у званок.)*

*З'яўляецца Цырымонімайстар.*

Галіцына, Басманава і Уласева!

*Цырымонімайстар кланяецца і выходзіць. Уваходзяць Галіцын, Басманаў і Ўласеў. Гадуноў кіўком галавы дае слова Іову.*

**Іоў.** З граматай названага Дзмітрыем сапраўды адкрылася мне, што Жыгімонт кароль і паны радныя Вялікага Княства Літоўскага сваёй наўмыснасцю хочуць Смаленск і гарады зямлі Северскай дастуціць ліцвінам-беларусцам і з гэтаю мэтаю подлага валацугу назвалі князем Дзмітрыем; а валацуга то расстрыга, вядомы злодзей, у міры Грышка Багданаў сын Атрэп'еў, жыў у Раманавых пры двары, а калі на зладзействе злоўлены быў, ратуючыся ад смяротнай кары пастрыгся ў чарняцы, быў па многіх манастырах, у Чудавым — у дыяканах, ды і ў мяне самога ў двары для кніжнага пісьма пабыў, а пасля збег з Масквы ў Вялікае Княства з чудаўскімі чарняцамі папом Варлаамам Яцкім ды з клірышанінам Місаілам Паводзіным; быў той Грышка Атрэп'еў і ў Кіеве, у Пячэрскім ды Мікольскім манастырах у дыяканах, потым адрокся хрысціянскай веры, іначасці воблік апаганіў і ў лацінскую герась ухіліўся, у чарнакніжжа і ведаўство і па прызванні д'ябальскім і па наўмыснасці, як я мяркую, Жыгімонта і ліцвінскіх людзей стаў Дзмітрыем царэвічам лжывае менавацца. Таварышы яго зладзеі, што за мяжу яго праводзілі і ў Літве з ім зналіся, многае мне пра зладзействы Грышкавы расказалі і пра тое, што пячэрскі ігумен пасылаў да казакоў з просьбаю злодзея гэтага схапіць, а ён, даведаўшыся пра тое сваімі д'ябальскімі спосабамі, знік. А зараз вось па наўмыслію магнатаў польскіх і хаценні паноў радных ліцвінскіх і па каралеўскаму загаду гэты вахлак, валацуга, прапойца і апошняя тупіца стаў менавацца князем Дзмітрыем.

**Гадуноў** *(пасля паўзы).* Няблага прыдумана, ваша святейшаства, але ў пасла майго Афанасія Уласева, якому ўдалося асабіста і зблізу назіраць за названым Дзмітрыем, іншае меркаванне пра апошняга і надзвычай адрозніваецца ад апісання яго вартасцяў тваім праасвяшчэнствам, які, між іншым, таксама асабіста і даўно ведае Грышку Атрэп'ева. Гэта як загадаеце разумець? Прашу, Афанасій!

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Распачалася праца беларускіх католікаў па беатыфікацыі фундатара касцёла Св. Сымона і Алены ў Менску Эдварда Вайніловіча

*22 лістапада 2005 года пад час святкавання **95-х** угодкаў існавання ў Менску Чарвонага касцёла св. Сымона і св. Алены 1253 вернікі парафіі гэтага касцёла звярнуліся да ксендза-пробашча касцёла, свайго духоўнага пастыра айца Уладзіслава Завальнюка з просьбаю распачаць працу па перазахаванні цела Эдварда Вайніловіча, фундатара касцёла з польскага горада Быдгашча, дзе ён зараз пахаваны у Менск, на яго радзіму, каб размясціць урну з яго парэшткамі альбо ў сцяне касцёла, альбо у адной з нішаў у сутарэннях храма.*

*І такая праца пачалася. Зараз у Чырвоным касцёле маецца спецыяльная кніга прысвечаная беатыфікацыі Э. Вайніловіча і кожны ахвочы можа пакінуць у ёй адпаведны запіс. З мэтай пашырэння інфармацыі аб жыцці і дзейнасці нашага славутага земляка, мы прапануем публікацыю гістарычнай даведкі пра яго жыццёвы шлях, якую падрыхтаваў і друкуе зараз на старонках штотыднёвага хрысціянскага бюлетэня “Голас душы” (пачынаючы з 2-га нумара за гэты год ад 14 студзеня) кандыдат гістарычных навук, айцец Уладзіслаў Завальнюк, сябар рэспубліканскай Рады ТБМ*

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

Карані роду Вайніловічаў сягаюць глыбока ў стагоддзі і налічваюць больш за 300 год сваёй радаслоўнай гісторыі. Яны ідуць побач са славутым родам Радзівілаў, захоўваючы глыбокія хрысціянскія традыцыі сваіх продкаў. Вайніловіч не прышэлец ні з Усходу, ні з Захаду, а ён з таго люду, што радзімую зямлю беларускую плугам рэзаў. Род Вайніловічаў служыў грамадству, горача любіў Радзіму, імкнуўся з жаданнем урэгуляваць справу сялянскую на асновах справядлівасці. Аб гэтым сведчыць факт перадачы часткі ўласнай зямлі з Пацечала і Радкаўшчыны на карысць сялян.

Эдвард Вайніловіч нарадзіўся **13 кастрычніка 1847 г.** у Сляпянцы, што пад Менскам (цяпер гэта мікраён горада), у маёнтку, які належаў бацькам яго маці, Эдварду і Міхаліне з Манюшкаў Ваньковічам. Бацька Эдварда Адам Вайніловіч і маці Ганна з Ваньковічаў жылі ў маёнтку Савічы Слуцкага павету, таму і не выпадкова ў надпісе на памятнай табліцы ў Нясвіжы называецца месца нараджэння Савічы.

**1861 г.** Эдвард з медалём найлепшай адзнакі скончыў Слуцкую гімназію, якая ў той час была адной з самых прэстыжных сярэднеадукацыйных устаноў. Медаль даў магчымасць Эдварду ў 1865 г. паступіць у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут.

**1869 г.** Пасля заканчэння вучобы атрымаў працу на заводзе шын, карабельнай зброі. Карыстаўся павагай за сваю добрасумленную працу. Але бацька пажадаў, каб Эдвард працягваў навучанне за мяжой.

У Берліне Э. Вайніловіч паступіў рабочым на завод паравозаў “Борсіка” і працаваў да 1870 г. Азнаёміўшыся дасканала з паравозамі, Эдвард дабіваецца па працу ў “Arsenal des Chemins de fer l’Etat”, каб мець магчымасць практыкавацца ў рамонце лакаматываў. Але бацька адклікае яго назад дамоў, каб пайшоў дарогай сваіх продкаў - гаспадароў зямлі. І ўсё ж усе папярэднія гады далі свой плён: ён зразумеў псіхалогію чалавека працы, падуладнага і залежнага, навучыўся лепей разумець абавязкі працадаўцы. Дзякуючы дараванням таленту, здольнасцям і сталай працы над сабою, ён быў усебакова развітым чалавекам. Пра яго дзейнасць, моцную сілу волі, настойлівасць і хрысціянскую праўдзівасць расказваюць архіўныя крыніцы.

**1870-1872 гг.** Падарожнічае па Італіі, цікавіцца яе гаспадарчымі, эканамічнымі і тэхнічнымі дасягненнямі.

**1872 г.** Становіцца слухачом Сельскагаспадарчай акадэміі ў Прушкаве, затым глыбокапазнаўчая сельскагаспадарчая практыка з усімі яе тагачаснымі навуковымі дасягненнямі ў “Maxelu”.

**1876 г.** Заснавана не без яго (Эдварда) актыўнага ўдзелу Сельскагаспадарчае таварыства на нашых землях, дзе мала, але пасля такой навуковай падрыхтоўкі і поўны энергіі Вайніловіч прымае самы актыўны ўдзел і становіцца яго старшынём.

**1878 г.** Выстава ў Парыжы...

**1882 г.** Шлюб з Алімпіяй Узлоўскай.

Людзі-старажылы тых мясцін, дзе жыў Эдвард (Менск, Савічы і Капыльскі раён, Макраны, Клецк і Клецкі раён, Слуцкі раён, Стаўбцоўскі, увесь Несвіжскі раён), пераказваюць пачутае ад сваіх бацькоў пра Вайніловіча як пра глыбока веруючага і практыкуючага хрысціяніна, праўдалюбівага. Ён заўсёды знаходзіў час, каб выслухаць кожнага, асабліва, хто апынуўся ў бядзе ці звяртаўся да яго з просьбаю. Лёсам прадбачання Божага ён знаходзіўся праз усё сваё жыццё паміж багатымі, а менавіта царскім дваром і багацеямі з аднаго боку і сярэднім класам сялян-гаспадароў з другога боку. Людзі патрабавалі падтрымкі і слова заступніцтва перад царом і каралём.



*Эдвард Вайніловіч*

Пра Эдварда Вайніловіча ведаюць і памятаюць не толькі ў тых мясцінах, дзе ён жыў і працаваў, але далёка па-за межамі Беларусі: у Расіі, у Санкт-Пецярбургу, Літве, Польшчы, Украіне. Гавораць пра яго і архіўныя дакументы, яго выступленні на сходах, асабістая кніга-двухтомнік успамінаў. Памятаюць пра яго, як грамадскага дзеяча, так і як хрысціяніна. Напрыклад, у Макранах, што недалёка ад Клецка. Вайніловіч пабудаваў прыгожы каталіцкі касцёл і велічную праваслаўную царкву. Касцёл рэвалюцыя разбурыла, засталіся толькі фундамент і раскіданыя пахавальныя нішы. А насупраць, у цэнтры населенага пункта, на ўзгорку, красуецца велічнай архітэктуры праваслаўная царква, што, праўда, без даху цяпер і разваліваецца. І так у многіх мясцінах паўставалі храмы, капліцы Вайніловічаў абедзвюх канфесій, каб людзі жылі ў міры, у згодзе і праслаўлялі адзінага Бога ў сваіх святынях. Тут праглядаецца практычны экуменізм XIX-XX ст. у жыцці нашага беларускага народа, на беларускай зямлі, паміж рознымі веравызнаннямі. Дзякуючы такім рэальным паказчыкам, як пабудова святыняў, праваслаўных і каталіцкіх, можна меркаваць пра веліч высакароднага духу Эдварда Вайніловіча, яго глыбокай, жывой і “незайздроснай-эгаістычнай” веры, талерантнасці, узаемацярпімасці, а па-над усім дамінуе любоў да бліжняга, незалежна ад яго веравызнання. Для Вайніловіча кожны ахрышчаны чалавек быў па духу і веры братам у Хрысце Ісусе, як каталік, так і праваслаўны, а людзі неахрышчаныя альбо іншых веравызнанняў з’яўляліся братамі па крыві, якімі ніколі не пагарджаў.




*Каталіцкі каляндарык з выявай Чырвонага касцёла. Парафіяльнае беларускамоўнае выданне.*

Цікава адзначыць, што няма альбо вельмі цяжка знайсці іншую такую асобу, як Вайніловіч, які б будаваў святыні для розных веравызнанняў. Каталіцкія мецэнаты будавалі толькі касцёлы, праваслаўныя мецэнаты будавалі толькі цэрквы. А тут, у дадзеным выпадку, постаць Вайніловіча. Што за феномен? Ён па-над бар’ерамі. Якая глыбокая вера і высокая культура духу!

Яго шчырая адкрытасць да бліжняга і разуменне чалавека ў патрэбе, незалежна якога ён веравызнання, праяўляецца ў арганізацыйных захадах па стварэнні камітэта абароны яўрэяў з цэнтрам у Клецку, і не толькі. Эдвард сам узначальваў гэты судовы орган, які быў у вялікай пашане і прэстыжны сярод насельніцтва велізарнай акругі, некалькі дзесяткаў раёнаў.

**У 1883 г.** яму прысвоілі ганаровае імя члена міравога суда, 34 гады падпісваў Вайніловіч рашэнні *“у імя яго царскай...”*, а з 1917 г. - *“у імя часовага ўраду”*. Больш за 35 год Эдвард быў ганаровым суддзём Слуцкага павету.

Далей, дзякуючы хадатайніцтву Эдварда, перад грамадскімі і духоўнымі ўладамі ў Клецку паўстала сінагога.

Што цікава: Вайніловічы самі захоўвалі храмавыя святы (каталіцкія і праваслаўныя) і казалі захоўваць іх усім сваім людзям. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, ніхто не меў права працаваць у святочны дзень, незалежна да якога веравызнання належаў.

Эдвард адносіўся да кожнага чалавека з павагаю, нават да найбяднейшага, стараўся падтрымаць і дапамагчы выжыць той ці іншай сям’і, гаспадару. Арганізаваў і стварыў у Клецку банк дапамогі вяскоўцам з мэтаю падняць сельскую гаспадарку, аказваў фінансавую дапамогу працавітым людзям-гаспадарам стаць на ногі. Узначальваў дзейнасць банка на працягу 20 год да 1919 г., калі вымушаны быў пакінуць радзіму.

Эдвард Вайніловіч тройчы выбіраўся ў Думу Расіі ў Санкт-Пецярбургу.

Па запрашэнні цара Аляксандра II бываў у Царскім Сяле на нарадах і сходах вышэйшых чыноўнікаў і палітыкаў Расіі, дзе падымаў пытанні ў справе дапамогі людзям з Заходніх раёнаў царскай Расіі.

Пазней у Варшаве Эдвард меў таксама вялікую пашану, ён вырашаў розныя набалелыя пытанні ў дачыненні да патрэб людзей з Усходніх крэсаў.

Эдвард асабіста ведаў і сябраваў са Сталыпіным, з ім многа працаваў у кірунку аграрнай рэформы Расіі і, напэўна, не без дапамогі і парады Вайніловіча ў Расіі ўводзілася аграрная рэформа. Характэрнай рысай Эдварда Вайніловіча быў рэалізм, знакаміты такт.

Як падаюць гістарычныя крыніцы-дакументы, сам Сталыпін прапанаваў цару Аляксандру кандыдатуру Эдварда Вайніловіча на пасаду віца-міністра сельскай гаспадаркі ўсёй Расіі.

З нагоды 25-годдзя існавання Таварыства Э. Вайніловіч быў арганізатарам сельскагаспадарчай прамысловай выставы ў 1901 г.

Доўгі час працаваў старшынём Таварыства дабрачыннасці ў Слуцку. З яго дапамогі ў Слуцку была адкрыта сярэдняя гандлёвая школа. Заснаваў на свае сродкі “Банк Клецкі”, які дапамагаў сялянам у станаўленні гаспадаркі.

У 1900 г. выбраны ганаровым членам Сельскагаспадарскага таварыства і заснаваў фонд у 7 000 руб. для стыпендыятаў.

Выбіраецца членам аграрарнай і фінансавай камісій разам з князем Васільковым.

**У 1907 г.** прымаў удзел у з’ездзе ў Кіеве.

Праз усё жыццё Эдвард Вайніловіч паказаў сябе ўзорным сем’янінам, мужам і бацькам, як гэта належыць сапраўднаму хрысціяніну і выхаванаму ў маральных традыцыях чалавеку. У веры і малітве ён чэрпаў мужнасць, цярплівасць і вынослівасць, асабліва калі паўміралі адно за адным яго дзеці. Ён скажа, а пасля напіша ў сваіх успамінах: “Так хацеў Бог!” Замест роспачы, абразы на Бога, чаму Ён забраў яго дзяцей, Эдвард збіраецца духам і будуе храм у Менску - касцёл у гонар св. Сымона-апостала і св. Алены, якая знайшла на Галгофе Крыж Хрыста Збаўцы. А якія словы, поўныя веры, піша на магіле сваёй дачкі 19-гадовай Алены: **“Я не памерла, я адыходжу, каб жыць”.**

У шматгранным жыцці Эдварда Вайніловіча яскравым промнем адлюстроўваецца яго дух чалавечнасці і міласэрнасці, які асабліва праявіцца напрыканцы яго пілігрымнага зямнога жыцця ў Быдгашчы (Польшча) 1920-1928 гг. Разруха па ўсёй Еўропе пасля першай сусветнай вайны. Бачачы бясконцую плынь бежанцаў і бяздомных, як дарослых, так і малых, будуе за свой кошт у Быдгашчы шматпавярховы дом для дзяцей-сірот, пакінутых і беспрытульных. Эдвард апякуецца над гэтымі дзецьмі і домам да канца свайго жыцця. Ён аддаў усё, што меў, усё, што яму даверыў Усявышні пры жыцці, памнажаючы дары духоўныя ва ўчынкі міласэрнасці і міру паміж людзьмі і веравызнаннямі. Эдвард прайшоў праз усё жыццё ў такім духу: будаваў касцёлы, цэрквы і сінагогі, закладваў банкі і школы-інтэрнаты, яднаў пасвараных паміж сабою, заступаўся перад царом і багацеямі за бедных, але працавітых людзей. Ён умеў карыстацца дастаткам, але і разумеў іншых у патрэбе.

*(Працяг будзе.)*



# ЗДЗІЎЛЯЎ ФАЛЬКЛОР

24 студзеня 2006 года на філалагічным факультэце БДУ (аўдыторыя імя Васіля Быкава) адбылося пасяджэнне краязнаўчага таварыства "Загадроддзе", якім кіруе Фёдар Клімчук. Перад сябрамі арганізацыі выступіў вядомы даследчык беларускага фальклору і педагог Васіль Ліцьвінка, які з цікавасцю расказаў пра ўдзел у "Х Міжнародным фестывале фальклору ў в. Чаромха Гайнаўскга ваяводства", пра спеўныя беларускія гурты вёсак Чаромха, Добраводы, Вулька Церахоўская.

Прысутныя прагледзелі вельмі цікавы відэафільм і пазнаёміліся з кіраўніком відэастудыі пры лабараторыі беларускага фальклору Алесем Беем. На семінары была агучана навіна, што адмоўлена ў рэгістрацыі навуковай арганізацыі "Беларускае краязнаўчае таварыства", якую збіраўся ўзначаліць А. Бутэвіч. Такім чынам краязнаўства будзе развівацца лакальнымі групамі. Безумоўна, гэта дрэнна адаб'ецца на навуцы і даследчыцкай дзейнасці.

*Аляксей Шалахоўскі, гісторык, краязнавец.*

## У КРАСАВІКУ БЕЛАРУСЬ І ПОЛЬШЧА ПЛАНУЮЦЬ НАКІРАВАЦЬ ДАКУМЕНТЫ НА ЎКЛЮЧЭННЕ АЎГУСТОЎСКАГА КАНАЛА Ў СПІС СУСВЕТНАЙ СПАДЧЫНЫ ЮНЕСКА

У красавіку Беларусь і Польшча плануюць накіраваць у Камітэт па ахове сусветнай культурнай спадчыны ў Дурбане (ПАР) матэрыялы на ўключэнне Аўгустоўскага канала ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА. Пра гэта паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі.

Паводле яго слоў, беларускія і польскія спецыялісты рыхтуюць дасье "Аўгустоўскі канал — вынік дзейнасці чалавека і прыроды", якое будзе накіравана ў камітэт. "Пасля атрымання дасье ў Беларусь і Польшчу прыбудуць эксперты камітэта, якія падрыхтуюць адпаведнае заключэнне. Гэты дакумент і наша дасье стануць асновай для разгляду пытання аб магчымасці ўключэння аб'екта ў прэстыжны спіс ЮНЕСКА", — сказаў І. Чарняўскі.

Нагадаем, 1 ліпеня 2006 года беларускі адрэзак канала павінен быць цалкам адрадзены ў эксплуатацыю. Чакаецца, што да гэтага ж тэрміну будуць гатовы паромныя пераправы, прычалы, стаянкі, устаноўлены туалеты і кіёскі. Прадугледжана круглагадовая эксплуатацыя канала і аднаўленне прылеглых да яго сядзіб, а таксама ўзвядзенне аквапарку, горналыжнага і гатэльна-рэстараннага комплексаў. Чакаецца, што будуць карыстацца попытам байдарачныя, аўтобусныя, экалагічныя маршруты, а таксама наведванні месцаў, звязаных з падзеямі сусветных войнаў.

Аўгустоўскі канал адносіцца да гідратэхнічных збудаванняў першай трэці XIX стагоддзя і ўяўляе сабою сістэму водных шляхоў, рэк, азёр і звязаных з імі суднаходных і водаскідвальных шлюзаў. Сёння страчана першапачатковае прызначэнне канала, праkладзенага ў якасці транспартнай артэрыі, які звязвае рэкі Вісла і Нёман аж да выхаду ў Балтыйскае мора. Свой пачатак канал бярэ на польскай тэрыторыі ў озеры Сэрвы ля горада Аўгустоў. Агульная працягласць канала складае 102 км, 21 з якіх праходзіць па тэрыторыі Беларусі. Беларуская частка канала пачынаецца на лініі мяжы з Польшчай за 1,8 км да пагранічнага шлюза "Кужынец", ад якога 1,6 кіламетра цягнецца па прыгранічнай тэрыторыі. У Гарадзенскай вобласці канал працякае па восі чаркова спрамлёнай у 1830-х гадах ракі Чорная Ганча і пераходзіць у сваё непасрэднае рэчышча — штучна выкапаны ўчастак даўжынёй 6 км да злучэння з Нёманам.

Як вядома, ў спіс ЮНЕСКА пакуль уключаны чатыры беларускія аб'екты — Белавежская пушча, Мірскі замак, комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы і Дуга Струве.

*Марат ГАРАВЫ.*

## У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАВА "ЗА НАШУ І ВАШУ СВАБОДУ", ПРЫСВЕЧАНАЯ 168-Й ГАДАВІНЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ К.КАЛІНОЎСКАГА

У сталічнай галерэі "Добрыя Мыслі" 2 лютага адкрылася мастацкая выстава "За нашу і вашу свабоду", прысвечаная 168-й гадавіне з дня нараджэння нацыянальнага героя Беларусі, кіраўніка нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863-64 гадоў супраць рускага царызму Кастуся Каліноўскага (2.02.1838, вёска Мастаўляны Беластоцкага ваяводства, Польшча — 22.03.1864).

У экспазіцыі прадстаўлена 28 твораў жывапісу і графікі, прысвечаных памяці К.Каліноўскага. Сярод іх — жывапісныя эцюды Пятра Сяргіевіча да карціны "Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў" (1950-я гады), графічны трыпціх Міколы Купавы "Мужыцкая Праўда", "Кастусь Каліноўскі" і "Атака" (1976-77 гады), палатно Віктара Маркаўца "Мастаўляны. Школа імя К.Каліноўскага" (1988), палатно Аляксея Марачкіна "Трыумф" Мураўёва-вешальніка" (1988).

Падчас адкрыцця экспазіцыі М.Купава зазначыў, што дзякуючы мастацтву фатаграфіі да нашых дзён дайшоў здымак Кастуся Каліноўскага 1862 года, на якім выяўлены валявы, натхнёны і высакародны чалавек. "Вобраз Каліноўскага і падзеі паўстання першымі ў мастацтве адлюстравалі яго непасрэдныя ўдзельнікі — Міхал Эльвіра Андрыёлі, Генрых Дмахоўскі, Аляксандр Ельскі, Казімір Альхімовіч і Альфрэд Рамер", — сказаў М. Купава. Ён выказаў спадзяванне, што неўзабаве на адной з галоўных плошчаў сталіцы будзе ўстаноўлены помнік К. Каліноўскаму і заснавана прэмія яго імя.

"Нам вядома, дзе пахаваны наш нацыянальны герой. І калі будзеце ў Вільні ускладзіце кветкі на гары Гедыміна і пастаўце запаленую свечку ў памяць гэтага вялікага чалавека", — сказаў мастак.

Доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс распавёў пра тое, як разам з Уладзімірам Караткевічам і іншымі даследчыкамі гісторыі паўстання 1863-64 гадоў сярод дворыкаў Вільнюсскага універсітэта яму ўдалося знайсці дакладнае месца арышту К.Каліноўскага ў лютым 1864 года.

Мастак і грамадскі дзеяч Аляксей Марачкін падкрэсліў, што вычын К. Каліноўскага, па рашэнні ваенна-палявога суда пакаранага на Лукішскай плошчы Вільні, "вучыць ствараць гісторыю, а не назіраць, як гэта робяць іншыя".

Каардынатар вечарыны мастачка Таццяна Гаранская зазначыла, што экспазіцыя ўключае творы, створаныя не для продажу, а "для душы, Радзімы і беларускага нацыянальнага адраджэння".

Выстава, арганізаваная творчай суполкай "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў, будзе працаваць да 11 лютага.

*М. ГАРАВЫ, БелаПАН.*

Нагадваем сябрам ТБМ

# 21 лютага - Дзень роднай мовы

## Сустрэчы ў ТБМ

**13 лютага - Уладзімір Содаль.**

**"Гістарычныя ваколіцы Менска"**

**Вул. Румянцава, 13. Пачатак а 18-й гадзіне.**

**Уваход вольны.**

# Нашая праца ў лютым

Паважаныя сябры і прыхільнікі ТБМ!

29 студзеня 2006 года адбылася чарговая Рады ТБМ якая прыняла план работы на гэты год, унесла неабходна змяненні ў Статут у адпаведнасці са зменай дзейнага заканадаўства, а таксама вызначыла новыя памеры сяброўскіх складак.

Новыя памеры складак будуць дзейнічаць з 1 сакавіка і таму, усе ахвотныя могуць сабраць і даслаць у сядзібу ТБМ складкі за гэты год у старых памерах да канца гэтага месяца.

Я таксама звяртаюся да тых сяброў ТБМ, якія не ўваходзяць у арганізацыі і суполкі, і таму ім трэба заплаціць складкі персанальна. Мы спецыяльна друкуем узор квітка, з якім трэба звярнуцца ў бліжэйшыя аддзяленне Беларусбанка каб пералічаць грошы на рахунак ТБМ.

Нагадваю, что за 2005 г. тыя, хто працуе плаціць 5 тыс. рублёў у год, беспрацоўныя і пенсіянеры – 3000 рублёў, студэнты – 2000 рублёў, школьнікі 1000 рублёў.

Калі ў Вас ёсць магчымасць, заплаціце складкі адразу і за гэты год па старых коштах і зрабіце адпаведную прыпіску ў квітку (складкі за 2005-2006 год).

У лютым разгарыцца чарговы этап выбарчай кампаніі пасля рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты.

Было б добра, каб кожны напісаў ліст, альбо патэлефанаваў у выбарчы штаб кожнага кандытата з прапановай выпускаць пабеларуску выбарчую агітацыю. Таксама можна дасылаць усім кандыдатам свае наказы. Сярод іх можа быць уключэнне ў праграму адкрыццё беларускамоўнага нацыянальнага універсітэта, аднаўленне дзейнасці гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, адкрыццё ў вашай мясцовасці беларускамоўных дзіцячых садкоў, і гімназій. Гэтыя ж пытанні трэба падымаць на пікетах і сустрэчах з кандыдатамі ў прэзідэнты.

Нядаўна, пасля доўгіх перамоў было дасягнута пагадненне аб продажы ў Менску, пачынаючы з лютага, 300 асобнікаў нашай газеты кожны тыдзень. У сувязі з гэтым я звяртаюся да усіх сяброў ТБМ з Менска і Менскага р-на з просьбаю рэгулярна набываць "Наша слова", нават, калі Вы сталі падпісчык нашай газеты. Аддайце гэты асобнік сябрам ці знаёмым з прапановай падпісацца альбо набываць яе у шапіках "Белсаюздруку".

Калі газеты няма, альбо яна схаваная, ці не ляжыць на прылаўку зрабіце адпаведны запіс у кнігу скаргаў ці прапаноў. У першую чаргу мая просьба накіравана да сяброў Рады, Сакратарыяту і кіраўнікоў менскіх суполак.

Зноў аднавіў сваю працу сайт газеты "Новы час". Калі ласка, сачыце за новай інфармацыяй.

31 студзеня я меў магчымасць сусрэцца з кіраўніком дэлегацыі АБСЕ спадарыняй Утай Цапф.

Спадарыня Цапф атрымала ў падарунак ад ТБМ кнігу пра Курапаты, "Летапіс ТБМ за 1989-2004 год", апошнія нумары "Нашага слова".

Гаворка ішла пра з'яўленне па просьбе сяброў ТБМ беларускай мовы ў перадачах нямецкай радыёстанцыі "DW" і пра яе паступовае пашырэнне.

Гэтая сустрэча сведчыць пра тое, што тысячы лістоў нашых прыхільнікаў у нямецкую амбасаду далі свой плён, і гэту работу трэба працягваць.

Такім чынам, нас чакае вельмі "гарачы" люты.

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Унёскі за 2005 год | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Унёскі за 2005 год | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

*Васіль Ліцьвінка*

# Першаадкрывальнік Цэнтральнага Палесся Рамуальд Зянькевіч (1811-1868)



*ЗЯНЬКЕВІЧ Рамуальд Сымонавіч (1.2.1811, Завілейскі пав. Віленскай губ. — 11.9.1868), беларускі фалькларыст і этнограф, археолаг, педагог. З сям'і незаможнага шляхціца. Скончыў Віленскі ун-т (1830). Настаўнічаў у прыватных дамах, Росенскай пав. школе, у доме кн. Друцкіх-Любецкіх у Луніне на Піншчыне, карыстаўся іх багатай б-кай, прыродазнаўчымі кабінетамі. Даследаваў матэрыяльную і духоўную культуру народа — запісваў песні, казкі, паданні, легенды, абрады і звычаі. У нарысе «Народныя песні, сабраныя на Піншчыне і перакладзеныя Р.Зянькевічам» (1847) апублікаваў і класіфікаваў паводле нар. календара калядныя, творы веснавога і летняга цыклаў. У зб. «Народныя песні Піншчыны» (Коўна, 1851) змясціў 219 песень з апісаннем мясцовых абрадаў. Даследаваў на агульнаславянскім фоне побыт, норавы, звычаі, фальклор, закранаў пытанне генезісу нар. песень у працы «Пра ўрочышчы і звычаі жыхароў Піншчыны, а таксама пра характар іх песень» (1852—53). Паасобныя рукапісы З. зберагаюцца ў аддз. рукапісаў Б-кі АН Літвы ў Вільні.*

Люты гэтага года пачынаецца 195-гадовым юбілеем вядомага беларускага фалькларыста, археалага, этнографа і краязнаўцы Рамуальда Зянькевіча. Нарадзіўся ён у Свянцянскім павеце Віленскай губерні (цяпер Швянчонскі раён у Летуве) у сям'і незаможнага шляхціца. Больш дакладных звестак пра месца яго нараджэння пакуль што не адшукалася. Магчыма, гэта быў нейкі фальварак у раёне Свянцянаў і Свіры, бо першую адукацыю ён атрымаў менавіта ў Свіры, а з 1820 г. вучыўся ў Пастаўскай павятовай школе. У 1822 г. бацькі адправілі Рамуальда ў Вільню, і тут ён прайшоў поўны гімназічны курс падрыхтоўкі, а ў пятнаццаць гадоў стаў студэнтам літаратурнага аддзялення Віленскага універсітэта. Разам з засваеннем ведаў адпаведна праграмы студэнт універсітэта знаёміўся з ужо амаль усталяванымі традыцыямі народазнаўства, адчуваў на сабе дабратворны ўплыў ідэй філарэтаў і філаматаў. Рамуальд Зянькевіч слухаў лекцыі Э. Гродэка, І. Лелявеля, Я. Лабойкі, М. Зубаковіча, Я.Чарняўскага і інш. Яму прадстаўлялася магчымасць пазнаёміцца з "нумізматычным кабінетам" пры універсітэце. Пасля заканчэння ў 1830 годзе Віленскага універсітэта працаваў настаўнікам на Свянцяншчыне, Пастаўшчыне, Ашмяншчыне. У дзевятнаццаць гадоў Р. С. Зянькевіч ужо стаў настаўнікам і працаваў у прыватных школах у розных месцах Беларусі. Праз чатырнаццаць гадоў ён атрымаў сталае месца педагога у Росенскай павятовай школе. Працаваў там нядоўга і з-за прагрэсіраваўшай слепаты пакінуў школу, часта мяняў месцы жыхарства і працы. Аднак ён нідзе не забываўся пра вывучэнне народнай культуры. Цяга гэтая выпрацавалася ў яго з універсітэцкіх гадоў, калі ён на канікулах запісваў казкі і легенды ад сваёй бабулі Шыманіхі, якіх яна ведала вялікае мноства.

У наш час, калі пастановамі ЮНЕСКА звернута ўвага сусветнай грамадскасці на неабходнасць захавання прыроднага асяроддзя і духоўнай культуры Палесся, з'явілася неабходнасць па-новаму ацаніць і высвятліць належнае месца магутнай постаці Рамуальда Зянькевіча. Услед за "Славянствам да хрысціянства" 1819 года Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага і шасцю кніжкамі "Вясковых песень з-над Нёмана, Дзвіны і Дняпра" 1838-1846 гг. Яна Чачота ён адкрыў сусветнай грамадскасці сваімі выданнямі "Гмінныя песенькі пінскага люду" 1851 года і "Аб урочышчах і звычаях пінскага люду і характары яго песень" 1852-53 гадоў унікальнасць абрадава-святочнай культуры Цэнтральнага Палесся (гл.:Piosenki gminne ludu pińskiego.Zbieral i przekladal Romuald Zieńkiewicz. Kowno,1851; Яго ж: O uroczyskach i zwyczajach ludu pińskiego oraz o charakterze jego piesni. BibliotekaWarszawska, 1852, t.IV, s.505-527; 1853, t.I, s.104-133. Звяртаем увагу, што ў першым, паралельна з польскім перакладам, пададзены лацінкай арыгіналы запісаў).

Будучы яшчэ на Ашмяншчыне ў 1843 годзе, у прыватнасці ў Крэве, даследчык цікавіўся мясцовымі археалагічнымі помнікамі, карыстаўся звесткамі аратых, якія знаходзілі тут старажытныя рэчы. Не маючы магчымасці самому весці раскопкі з-за слабага, яшчэ з дзяцінства, зроку, Зянькевіч рабіў абмеры курганоў, гарадзішчаў, апісваў іх знешні выгляд, захоўваў іх мясцовыя назвы і збіраў мясцовыя легенды пра іх. У прыватнасці, легенду аб існаванні падземнага хода. Свае назіранні ён абагульніў у артыкуле "Аб курганах і гарадзішчах Ашмянскага павету" (часопіс "Athenaeum", Вільня, 1848, т. 5,). Даследуючы Крэўскі замак, Зянькевіч звярнуў увагу на наяўнасць у Крэўскай вежы насценных роспісаў. Фалькларыст не пакінуў па-за ўвагай легенду пра падземны ход паміж замкам і гарадзішчам, якое знаходзіцца за некалькі кіламетраў па дарозе з Крэва ў Смаргонь побач з групай курганоў (аб гэтым згадвае ў сваёй працы "Старажытная Польшча" Міхась Балінскі. Тут жа выкарыстаны звесткі Зянькевіча пра тое, што гарадскім гербам Крэва была "Ляліва"). Створаная вучоным археалагічная карта Ашмянскага павету прыгожа вянчае гэтую частку яго навуковай працы, якую ён не абмінаў у сваіх даследаваннях на Палессі, дзе даследаваў замчышча Турава, курганы, валы і гарадзішчы Піншчыны.

У пошуках работы Р.С. Зянькевіч трапіў на Палессе. На некалькі гадоў асталяваўся ў Луніне Пінскага павету – рэзідэнцыі князёў Друцкіх-Любецкіх. Гэты перыяд жыцця аказаўся найбольш плённым для даследчыка. Ён адчуў першародныя пласты старажытнай культуры палескага краю. Фактычна пасля Л. Галамбёўскага ніхто ўсур'ёз не займаўся тутэйшым фальклорам. У сярэдзіне XIX ст. Р. Зянькевіч ацаніў мясцовую песенную творчасць па самай высокай шкале вартасці і зрабіў такі істотны крок у вывучэнні фальклору, што зарэкамендаваў сябе у той час самым дасведчаным спецыялістам. Ён актыўна запісваў песні, казкі, паданні, абрады і г. д. І па-ранейшаму вывучаў даследаванні фалькларыстаў суседніх народаў, асабліва цікавіўся кнігамі **пра старажытную ведыйскую традыцыю**. Самай ранняй публікацыяй Р. С. Зянькевіча з'яўляецца невялікі этнаграфічны абразок пра ваджэнне "казы", які ён змясціў у 1843 г. у I томе кіркораўскага "Радэгаста".

У спадчыне Р. С. Зянькевіча налічваецца каля дзесятка публікацый і манускрыптаў. Гэта тое, што нейкім чынам ашчадзіў лёс. Першы спецыяльны нарыс пра палескі фальклор Рамуальд Зянькевіч змясціў у 1847 г. у «Атэнэуме». Аўтар зрабіў спробу класіфікацыі народных песень паводле часу іх выканання, прывёў сем песень веснавога цыклу пра вярбу, шэсць летніх песень і дзевяць калядак, а таксама шэсць вясельных і столькі ж іншых жанраў, якія ён не стаў удакладняць. Змясціў каментары да фальклорных твораў і тлумачэнні некаторых фальклорна-этнаграфічных з'яў на Палессі. У сваіх запісах аўтар захаваў мясцовыя дыялектныя асаблівасці, як, напрыклад "У нядзельку рано Ганночка сенцы мела".

Рамуальду Зянькевічу выпала жыць і працаваць у час нацыянальна-вызваленчага руху славянскіх народаў, пару ломкі старых грамадска-палітычных і сацыяльных адносін, калі вастрэй стала разумецца далучанасць да вывучэння мінулага свайго народа. Прысвяціўшы жыццё вывучэнню матэрыяльнай і духоўнай культуры роднага народа, рабіў гэта свядома, імкнучыся прасачыць яе вытокі. Як і большасць сучаснікаў, пісаў на польскай мове. Прычынай таму было традыцыйнае хатняе выхаванне ў шляхецкіх сем'ях на Беларусі. Да гэтага "падштурхоўвала" вялікадзяржаўная палітыка імперскай Расіі, у выніку якой мясцовая інтэлігенцыя кідалася ў другую крайнасць – акаталічвалася, успрымала як сваю польскую нацыянальную палітыку. Расія пашырала паліцэйскі кантроль за ўнутраным становішчам на Беларусі пасля расправы над дзекабрыстамі і паўстання 1830-1831 гг. і перш за ўсё супраць творчай інтэлігенцыі, да якой належыў і Рамуальд Зянькевіч. Гэтым, магчыма, і можна растлумачыць адмову амаль усёй мясцовай інтэлігенцыі ад супрацоўніцтва з імперскім рэжымам, якая часам праводзіла адкрытыя дэмаршы супраць яго гвалтоўнай русіфікацыі. Рамуальд Зянькевіч якраз і стаў сведкам не толькі антыімперскага руху, а і цягі да культуралагічнага пазнання краю, асабліва яго духоўнага багацця.

Больш двухсот тэкстаў апублікавана у названым вышэй першым зборніку фалькларыста. прадмове да зборніка Р. Зянькевіч зазначыў, што песні запісваў над Пінай, Прыпяццю і Цной, што мова у гэтым краі даўняя і «сляды звычаяў тут яшчэ жывыя з далёкіх стагоддзяў і іх нельга абысці даследчыкам старажытнасцяў. На песню даследчык глядзеў як на эмпірычны матэрыял, які павінен адказаць, якому народу яна належыць, выявіць псіхалогію народа, яго мудрасць, напомніць сабой пра **рэшткі праславянскай, запазычанай з ведыйскага часу мінулага**, захапляўся і даў адчуць чытачу, што даволі багатыя ў пінчукоў вясельныя песні, у якіх зберагліся рэаліі дахрысціянскіх часоў.

Сабраны песенны матэрыял Рамуальд Зянькевіч падзяліў на наступныя раздзелы: "Калядныя песні", "Вяселле", "Свята куста", "Купала" і інш. Да калядных песень ён аднёсіў "Шчодры вам вечар", "Максім стары, барадаты", "У полі крыж выстаўлены", "Святыня ў Тураве".

Р. Зянькевіч, зыходзячы са свайго досведу фальклорных запісаў і размеркавання па загадзя прадуманай схеме, падсвядома закладваў у зборніках пачаткі методыкі. З народнай песняй ён абыходзіўся ашчадна, захоўваў каларыт мясцовай гаворкі: "*Два лытвіны із Дывін прыпэслы горшчок ботвін*". Пры гэтым фалькларыст зрабіў зноску і растлумачыў, што Дзівін знаходзіцца недалёка ад Кобрына, тым самым падкрэсліваючы мясцовы характар песні і тое, што «лытвіны» не якія-небудзь перасяленцы, а тутэйшыя людзі.

Ва ўступе да вясельных песень Зянькевіч даў кароткае апісанне рытуалу заручын і асобна заручын для беднай маладой. Есць і такія вясельныя запісы, як "Пры абходзе сватоў", "Перад шлюбам", "Перад касцёлам", "Песні пасля шлюбу". Складальнік падае песні сваццяў, дружкаў, каравайніц, пры дарунках маладой, асобна вылучаны "Песні сватоў у дарозе" і інш.

У песенным зборніку фалькларыст паказаў выключную папулярнасць свята Куста ў песенным календары жыхароў Цэнтральнага Палесся. Ён апісвае карнавальныя "працэсіі" Куста у розных сёлах на Піншчыне і тое, што адбываецца на другі дзень зялёных святак. Збіраўся ўвесь люд, хоць галоўнымі дзеючымі асобамі з'яўляюцца толькі жанчыны. Самую маладую, вясёлую, гаваркую дзяўчыну апранаюць пад "зялёны куст". Пры гэтым абрадзе чалавек просіць у прыроды спагады да сваёй цяжкай, карпатлівай працы на зямлі. У абрадзе вітання Куста асабліва падкрэсліваецца клопат пра будучы ўраджай. Фалькларыст задумваецца над даўнасцю свята Куста на Палессі і прыходзіць да вываду, што ў ім шмат элементаў старажытнага абраду пакланення боствам, а пачатак трэба шукаць у язычніцкіх часах.

Зборнік "Гмінныя песенькі пінскага люду" Зянькевіч лічыў этапным у сваёй дзейнасці на шляху да новых арыгінальных навукова-тэарэтычных высноў. Гэта кніга выклікала ў чытачоў павышаную зацікаўленасць да магутнага пласта народнай культуры Палесся. Яе падпісчыкамі былі браты Я. і К. Тышкевічы, І. Крашэўскі, Т. Зан, Э. Плятэр і ўсе іншыя сучаснікі і паслядоўнікі Рамуальда Зянькевіча. У наш час спадчына фалькларыста бясцэнная. Яна стала асновай трох кандыдацкіх дысертацый, прысвечаных абрадам Куста і вяселля на Цэнтральным Палессі і рыхтуецца да выдання ў фундаментальнай серыі "Беларускі кнігазбор".

Зоркай першаадкрывальніка прарадзімы славян – Цэнтральнага Палесся – ззяе імя Рамуальда Зянькевіча ў гісторыі славянскага народазнаўства і чакае свайго ўдумнага даследчыка для асобнай манаграфічнай працы.

# Адновім мову

**Крыжаванка "Памяць" Лявонція Целеша, г. Дзяржынск**



**Па гарызанталі:**

**5.** Паэт, публіцыст, мемуарыст. Псеўданім Лявон Чачотка. Аўтар драмы "Вяселле", паэтычнага зборніка "Лукішкі", кнігі "Лукішскі дзённік". Быў вязьнем польскіх турмаў. Рэпрэсаваны ў 1934 г, прыгавораны да вышыйшай меры пакарання. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1956г.

**6.** Публіцыст, дзеяч рэвалюцыйн. руху ў Заходняй Беларусі, адзін з кіраўнікоў Віцебскага антыфашысцкага надполля ў часы ВАВ. Герой Савецкага Саюза. Аўтар шматлікіх публіцыстычных нарысаў і літаратурных замалёвак. Сядзела ў польскай і савецкай турмах па абвінавачванні ў антыпольскай і атысавецкай дзейнасці. У 1942 г. арыштавана і закатавана ў фашысцкім засценку.

**9.** Згодна статута ВКЛ, пэўная сума сродкаў, якая ўносілася вінаватымі асобамі, альбо тымі, на каго мелі падазрэнне.

**10.** Герой Савецкага Саюза ("Бацька Мінай"). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Віцебшчыне. Камандзір 1-й Беларускай партызанскай брыгады.

**14**. Празаік, публіцыст, мовазнавец, палітычны дзеяч, акадэмік АН Беларусі. Ураджэнец Стаўбцоўшчыны. Удзельнічаў у абвяшчэнні Бел. Нар. Рэспублікі і ў стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі. Стварыў некалькі падручнікаў па беларускай мове. Аўтар публіцыстычных нататак "Пра лёс беларускага народа і яго мовы". Рэпрэсаваны, растраляны ў Саратаўскай турме. Справа 1938 г. спынена Саратаўскім судом у 1958 г.

**15.** Гісторык, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец, акадэмік АН Беларусі. Уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. Аўтар буйной навуковай працы "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі," а таксама аўтар шэрагу беларускіх падручнікаў і хрэстаматый. Быў знаёмы з Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам. У 30-я гады рэпрэсаваны, прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Загінуў у Магадане. Рэабілітаваны ў 1958 і 1988 гг.

**16.** Сапраўднае прозвішча Кудзелька. Паэт, драматург, празаік, грамадскі дзеяч. У 1925-29 гг. рэдактар газеты "Савецкая Беларусь". Аўтар паэм "Босыя на вогнішчы", "Ленін", "Марына", "Карчма". Напісаў аповесць "Свінапас", паводле якой быў створаны першы беларускі мастацкі фільм "Лясная быль". У 1937 г. быў арыштаваны і асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў 1956 г.

**19.** Паэт, празаік, перакладчык. Літаратурным настаўнікам яго быў Я. Купала. Аўтар марыністкай лірыкі (вершы "Мора", "Шторм"), вітаў савецкую рэчаіснасць (вершы "Загад камуны", "Да працы", "Косьба"). У 1930 г. арыштаваны. Памёр ад сухотаў. Рэабілітаваны ў 1975 г.

**22.** Група індаеўрапейскіх плямён і народаў, якія гавораць (ці гаварылі) на балтыйскіх мовах або іх дыялектах.

**23.** Паэт. Пісаў на яўрэйскай і беларускай мовах. З 1929 г. друкаваўся ў часопісе "Штэрн" ("Зорка"). Да вайны ў Менску на яўрэйскай мове выдадзены дзве яго паэтычныя кнігі "Мой першы сноп" і "У паходзе" на пачатку ВАВ прызваны ў армію загінуў на фронце ў 1942 г.

**24.** Доўгае, з шырокімі рукавамі адзенне для богаслужэння ў дыяканаў, дзячкоў.

**25.** Празаік. У 1932-34 гг. быў ваенным журналістам у рэдакцыі газеты "Красноармейская правда". Аўтар аповесці "Дзень палымнее" і аповесці для дзяцей "Санька-сігналіст" у 1936 г. быў беспадстаўна рэпрэсаваны і асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў 1957 г.

**29.** Герой Савецкага Саюза, ураджэнец г. Барысава. У ВАВ вызначыўся пры вызваленні Украіны. Памёр ад ран. Яго імем названа вуліца ў г. Барысаве.

**30.** Празаік, драматург, публіцыст. Аўтар раманаў "Сястра", "Зямля", "Бацькаўшчына", п'есы "Лета" і шматлікіх апавяданняў. Беспадстаўна арыштаваны ў 1938 г., у 1939 г. выпушчаны на волю. На яго заўчаснай смерці адбіліся катаванні ў турме, ранейшыя хваробы.

**31.** Дзеяч кампартыі і савецкай дзяржавы, быў I сакратаром Ленінградскага губкома ВКП(б). Карыстаўся ў людзей аўтарытэтам і павагай. Забойства яго ў 1934 г. паслужыла падставай для разгортвання новага вітка рэпрэсій супраць мірнага насельніцтва.

**36.** Паэт, аўтар паэмы "Балота", кнігі вершаў "Дымнае жыта". Вершы паэта ўхваляў М. Гарэцкі. Рэпрэсаваны. Расстраляны ў 1941 г.

**37.** Празаік, публіцыст аўтар апавядання "На Сожы", кнігі апавяданняў для дзяцей "Дружба". Загінуў на фронце ў час ВАВ. Адна з вуліц г. Мсціслава носіць яго імя.

**38.** Паэт, празаік, перакладчык. У 1935 –36 гг. працаваў літсупрацоўнікам газеты "Літаратура і мастацтва" аўтар паэмы "Канчыта з-пад Таледа" асобныя вершы паэта пакладзены на музыку У 1936 г. рэпрэсаваны, памёр у зняволянні. Рэабілітаваны у 1954 г.

**41.** Публіцыст, палітычны і культурны дзеяч адзін з арганізатараў і лідараў нацвызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. У 1928-36 гг. рэдагаваў газету "Беларуская крыніца", быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1939 г. быў арыштаваны савец. рэпрэсіўн. органамі і без суда і следства растраляны.

**42.** Назва высокапробных талераў у рускамоўных крыніцах 17 стаг.

**43.** Паэт, перакладчык. Быў цесна звязаны з паэтам У. Дубоўкам. Шмат перакладаў з беларускай мовы на рускую ("У палескай глушы" Я. Коласа, "Язэп Крушынскі", З. Бядулі. Асобныя творы Ц. Гартнага. К. Чорнага). Загінуў на фронце, абараняючы ад ворага подступы да Масквы.

**44.** Празаік, паэт, журналіст, дзеяч заходнебеларускага рэвалюцыйнага руху. У беларускай літаратуры выступаў як паэт пад псеўд. Я. Пралеска. Аўтар апавяданняў "Парабкі" і "На расцяробе". Польскімі ўладамі быў арыштаваны і сядзеў у турме ў Лукішках і Вільні. Савецкімі карнымі органамі быў арыштаваны і ў 1934 г. быў прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1956 г.

**Па вертыкалі:**

**1.** Крытык. Найбольш часта публікаваўся на старонках газеты "Літар. і мастацтва" (артыкулы, рэцэнзіі і аб творчасці П. Броўкі, Э. Самуйлёнка. У. Харыка). У 1936 г. арыштаваны, расстраляны з вялікай групай бел. пісьменнікаў. Рэабілітаваны ў 1966 г.

**2.** "Архіпелаг..." твор вядомага рускага пісьменніка А. Салжаніцына.

**3.** Беларускі і польскі паэт 19 стаг. Аўтар зборніка "Песенькі і іншыя вершы", шасці кніг "сялянскіх песенак..." перапісваўся з А. Міцкевічам, Т. Занам, І. Дамейкам. Арыштоўваўся расійскімі царскімі ўладамі і сядзеў у турмах, з-за чаго пагоршылася яго здароў'е, і заўчасна памёр у 1847 г.

**4.** Драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак, Народны артыст Беларусі. Стварыў каля 40 п'ес, сюжэты якіх чэрпаў з гісторыі, фальклору беларускага народа ("Ганна", "Душагубы", "Суд", "Пісаравы імяніны"). Як акцёр стварыў на беларускай сцэне шэраг яркіх мастацкіх вобразаў у 1937 г. быў рэпрэсаваны. Памёр у зняволянні, рэабілітаваны ў 1937 г.

**7.** Паэт, крытык, перакладчык. Быў адным із лідараў літарат. аб'яднання "Маладняк", аўтар паэтычнага зборніка "І аалацісцей, і сталёвей", пераклаў на беларускую мову лібрэта оперы "Яўгеній Анегін". У 1936 г. паэт быў арыштаваны, а ў 1937 – расстраляны, магчыма, у Курапатах. Рэабілітаваны ў 1957 г.

**8.** Паэт, перакладчык, крытык. Працаваў у газеце "Звязда", уваходзіў у літ. аб'яднанне "Маладняк". Аўтар паэмы "Уяўленне", зборніка вершаў "На ростані", "З палёў Заходняй Беларусі". У 1931 г. быў асуджаны на 5 гадоў ссылкі ў Кіраўскую вобл., дзе і памёр. Рэабілітаваны ў 1960 г.

**11.** Шпілька для зашпільвання верхняга адзення ў старажытных народаў.

**12.** Паэт працаваў літарат. кансультантам у газеце "Чырвоная змена" аўтар зборніка вершаў "Апаленыя пялёсткі" ваяваў у Прыбалтыцы. Загінуў на фронце.

**13.** Празаік, паэт, драматург, дзярж. і грамадскі дзеяч, акарэмік АН Беларусі. Працаваў галоўн. рэдактарам газеты "Савецкая Беларусь", часопіса "Полымя" быў членам ЦК КП(б), аўтар шматлікіх вершаў, п'ес "Хвалі жыцця", "На стыку", "Дзве сілы". У 1936 г. органамі НКУС быў арыштаваны, скончыў жыццё самагубствам рэабілітаваны ў 1955, 1987-88.гг.

**17.** Паэт , перакладчык. Быў членам таварыства "Маладняк", "Узвышша". Першы зборнік паэзіі – "Кляновыя завеі", іншыя – "Светацені", "Ветразі", "Палі загаманілі". Аўтар паэмы "Калі асядае муць". На вершы паэта І. Іваноў і М. Равенскі напісалі песні. У 1936 г. быў незаконна арыштаваны, у 1937 г. расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

**18.** Драматург. Напісаў п'есы "Змрок", "Воўчыя ночы", "Рой", драму "Апраметная", якія ішлі на сцэнах Віцебскага БДТ-2 імя Коласа і Менскага БДТ –1 імя Купалы тэатрах. Арыштаваны ў 1937 г. памёр у зняволенні. Рэабілітаваны пасмяротна.

**20.** Празаік. З'яўляўся адным з лідараў "Маладняка", неаднаразова выбіраўся членам ЦК КП(б)Б. Аўтар рамана "Праз гады", аповесцяў "Вінаваты", "Носьбіты ненавісці", "Яны не пройдуць". У 1937 г. стаў ахвярай сталінска-яжоўскіх рэпрэсій. Быў расстраляны ў Курапатах. У 1956 г. быў рэабілітаваны.

**21.** Генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Віцебшчыны. З лістапада 1941 г. камандаваў кавалерыйскім корпусам. Загінуў у баі. Яго імем названы вуліцы ў шматлікіх гарадах Беларусі, у г.п. Ула ёсць мемарыяльны музей і помнік.

**26.** Горад у Гарадзенскай вобласці. Паводле археалагічных даследванняў, узнік у 11 стаг. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252.г.

**27.** Паэт, празаік, кінадраматург, адзін з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру у беларускай прозе. Аўтар аповесці "Антон Савіцкі", кнігі "Зборнік фельетонаў". Паводле яго сцэнарыяў пастаўлены фільм "Хвоі гамоняць". У 1936 г. арыштаваны, у 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957 г.

**28.** Выдавец, публіцыст, мемуарыст, грамадскі дзеяч. На працягу 7 гадоў быў рэдактарам-выдаўцом "Нашай Нівы", перапісваўся з М. Багдановічам, Я. Карскім. Вобраз яго створаны ў трылогіі Я Коласа "На ростанях" дзе ён выведзены пад прозвішчам Уласюка. У 1940 г. быў асуджаны на 5 гадоў зняволення, памёр у зняволянні. Рэабілітаваны ў 1961г.

32. Празаік, драматург, фалькларыст, перакладчык, акадэмік АН Беларусі. У 20-я гады 20 ст. быў рэдактарам газет "Наша думка", "Беларускія ведамасці". Сябраваў з Я. Купалам, Я. Коласам, З. Бядуляй. Аўтар шматлікіх апавяданняў, п'есы "Жартаўлівы Пісарэвіч", зборніка "Народныя песні з мелодыямі" быў вязнем польскай турмы ў Лукішках. Рэпрэсаваны ў 1938 г., памёр у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1957 г.

**33.** Паэт. Да ВАВ працаваў у рэдакцыях газет аўтар паэтычнага зборніка "Шчаслівая зорка". Удзельнік ВАВ. Загінуў у баі пад Сталінградам.

**34.** Старажытнаеўрапейская мера даўжыні. У расійсай імперыі з дапамогай гэтай меры вызначаўся калібр ружжа.

**35.** Празаік, крытык. Быў членам літар.-мастацкай арганізацыі "Маладняк". У гады войны-удзельнік Менскага падполля. Аўтар зборнікаў апавяданняў "Званкі". "Рузікі", раманаў "Сын", "Салаўі святога Палікарпа", "Таварышы". Загінуў у час прарыву партызанскай блакады на Лагойшчыне.

**39.** Паэт пісаў на яўрэйскай, белар, і рускай мовах, першая кніга вершаў – "Трапятанне". Аўтар паэм "Мінскія балоты", "Катрынка", "Хлеб" вершы "Над Бярозай" і "Хлеб" былі перакладзены на музыку С. Палонскім. У 1937 г. быў арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

**40.** Паэт, празаік. Пісаў на яўрэйскай мове. У 1936-39 гг. супрацоўнік часопіса "Штэрн" (Зорка"). Зрабіў (разам з З. Аксельродам) інсцэніроўку на творах М. Мойхер – Сфорыма "Маленькі чалавечак" удзельнік Вял. Айч. вайны. Загінуў у баі пад Зэльвай.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6. 02. 2006 г. у 10.00. Замова № 287.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.